*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 11 (223) 14 сакавіка 1995 г. Кошт — 100 рублёў

РЭХА

## «У Расіі ідзе грамадзянская вайна»

Гэта заявіў карэспандэнту газеты «Известия» старшыня Камітэта па бяспецы Дзярждумы РФ В.Ілюхін, які з'яўляецца адным з лідэраў парламенцкай фракцыі камуністаў. Ён сказаў таксама, што гэтая вайна вядзецца «ў Чачні — адкрыта, у Маскве — прыхавана». Але вынікі ў абодвух выпадках жудасныя: 30 тысяч з лішкам забойстваў было ў Расіі за мінулы год, колькі ў Чачні — нікому дакладна невядома, бо сапраўдныя страты хаваюцца ад насельніцтва. Кіраўнік Камітэта па бяспецы, характарызуючы наглае забойства вядомага тэлежурналіста Уладзіслава Лісцева, заявіў, што гэта яшчэ адзін доказ таго, што выканаўчая ўлада свядома не хоча весці сапраўдную барацьбу з арганізаванай злачыннасцю.

Падзеі трывожныя, асабліва ўлічваючы, што і беларусаў шмат хто з вышэйшага кіраўніцтва нашай рэспублікі стараецца ўсімі сродкамі ўцягнуць у расійскую «зону».

**Ул.Ас.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ НАРОДНЫ ДЭПУТ УЛАДЗІМІР ГРЫБАНАЎ КРЫТЫЧНА ВЫКАЗАЎСЯ АДНОСНА КАДРАВАЙ ПАЛІТЫКІ Ў ВЫШЭЙШЫХ ЭШАЛОНАХ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ.** У якасці прыкладу да сказанага спадар Грыбанаў прывёў Міністэрства замежных спраў, дзе па стану на 23 лютага грамадзянства Беларусі не мелі тры супрацоўнікі: кіраўнік справамі А.Варабеня, інжынер першай катэгорыі А.Фралкоў, трэці — сакратар упраўлення інфармацыі, аналізу і прагназіравання І.Палуян, а таксама саветнік беларускага пасольства ў ФРГ В.Чайчыц і аташэ пасольства ў Кітаі Д.Слабадзянюк. Якой вернасці беларускай дзяржаве можна чакаць ад такіх дзяржаўных мужоў, якія з'яўляюцца грамадзянамі іншых краін?

○ ***ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ КОНКУРСУ НА ЛЕПШЫ ПРАЕКТ ПОМНІКА АДАМУ МІЦКЕВІЧУ**, якія будзе пастаўлены перад будынкам Саюза палякаў Беларусі ў Гродне. Журы аддало перавагу праекту помніка менскага скульптара А.Засціцкага.*

○ **МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ ЗАРЭГІСТРАВАЛА ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ «КАТАЛІЦКІЯ НАВІНЫ»**, заснавальнікам якога з'яўляецца Менска-Магілёўская арцыбіскупія. Дай Бог, каб выдаўцы новага выдання не забываліся пра дзяржаўнасць беларускай мовы!

○ ***У ДРУКУ З'ЯВІЛАСЯ ІНФАРМАЦЫЯ,** што адстаўны прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч мае намер балаціравацца на выбарах у новы Вярхоўны Савет. Зноў будзе прапаноўваць рублёвую зону з Расіяй?*

○ **У 89,65 МІЛЬЯРДА РУБЛЁЎ АБЫДУЦЦА ПАДАТКАПЛАЦЕЛЬШЧЫКАМ НАШАЙ КРАІНЫ ВЫБАРЫ Ў НОВЫ ПАРЛАМЕНТ.**

○ ***ВЫЙШАЎ ПЕРШЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «ZA VOLU», ЯКАЯ БЫЛА ЗАСНАВАНА Ў 1944 ГОДЗЕ.** У рэдакцыйным артыкуле да чытачоў пішацца: «Мы адбудоўваем падмурак Беларускае Дзяржавы разам з героямі нашай велічнай гісторыі. Памяццю гетмана Канстанціна Астрожскага, Вітаўта Вялікага, Кастуся Каліноўскага, генерала Станіслава Булак-Балаховіча, Уладзіміра Пракулевіча, Івана Шынько, Міхаіла Вітушкі, Янкі Філістовіча мы адраджаем беларускую правую газету «Za volu». Газета ёсць голасам беларускіх патрыётаў»*

***НАМЕНКЛАТУРА І ЭЛІТА: ДРАМА БЕЛАРУСКІХ КІРАЎНІКОЎ.** Стар. 3.*

***НА АНКЕТУ «НС» АДГУКНУЎСЯ EDUARD CIARESKA.** Стар. 7.*

# Скарб нацыі — фальклор

Адбыўся другі (чарговы) з'езд фальклрыстаў Беларусі.

На з'ездзе Асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі, якая ўзнікла ў лістападзе 1991 г., была перайменавана ў Беларускі саюз фалькларыстаў. Перайменаванне ініцыіраваў падрыхтаваны Міністэрствам культуры і друку праект Закона аб творчых саюзах. Творчая грамадскасць спадзяецца, што тыя ільготы па арэндзе і падаткаабкладанні для творчых саюзаў і аб'яднанняў, якія прадугледжаны ў гэтым праекце закона, будуць прыняты Вярхоўным Саветам Беларусі.

Пры адкрыцці з'езда старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, ён жа старшыня нацыянальнай секцыі Беларусі па фальклору, Ніл Гілевіч выступіў з уступным словам, у якім засяродзіў увагу на праблемах выкарыстання фальклору як сродку выхавання нацыянальнай свядомасці і нацыянальна-культурнага адраджэння (*чытайце яго выступленне на 2-й стар.*). Са справаздачным дакладам па ўсіх накірунках дзейнасці Асацыяцыі фалькларыстаў Беларусі за тры гады выступіў яе прэзідэнт Васіль Ліцвінка. Дыскусія разгарнулася па наступных пытаннях:

новы погляд на фальклор у варунках нацыянальнага адраджэння;

неабходнасць удзелу навукоўцаў у практычнай культурна-асветніцкай і выхаваўчай працы;

стварэнне Закона аб ахове фальклору, палажэння аб фальклорным калектыве, прадугледжанага прынятай у мінулым годзе дзяржаўнай праграмай падтрымкі традыцыйнага мастацтва;

стварэнне навучальнай Акадэміі народнага мастацтва;

неабходнасць аб'яднання Беларускага саюза фалькларыстаў і Саюза народных майстроў;

нефальсіфікаванае выкарыстанне лепшых узораў беларускага фальклору ў культурнай і педагагічнай практыцы і ў сродках масавай інфармацыі.

Пасля даклада старшыні рэвізійнай камісіі Івана Цішчанкі былі абмеркаваны пытанні перайменавання АФБ у БСФ і прыняцця новага статута. Прысутныя не пагадзіліся з прапановай музыказнаўца Таццяны Варфаламеевай стварыць яшчэ адзін саюз — мелася на ўвазе аб'яднанне музыказнаўцаў.

У цікавай, працяглай і бурнай дыскусіі прынялі ўдзел таленавіты музыка і паэт з вёскі Вобрава Любанскага раёна Анатоль Кісель, начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры і друку Тадэвуш Стружэцкі, загадчыкі аддзелаў культуры з Глыбокага Марыя Поляк і са Смаргоні Соф'я Лазар, загадчыца клуба з вёскі Чэчына Дзяржынскага раёна Яніна Ермаловіч і іншыя.

Самай прыгожай часткай з'езда сталі выступленні лепшых спевакоў з вёскі Лобча Лунінецкага раёна, з вёскі Моталь Іванаўскага раёна, з вёскі Цялуша Бабруйскага раёна, з г.п.Рудзенск Пухавіцкага раёна, музыкаў з вёскі Ласі Бабруйскага раёна. У высокамастацкай інтэрпрэтацыі падалі рэдкія фальклорныя ўзоры спявачкі з Менска Тамара Ліхадзіеўская і Наталля Матыліцкая, гурт «Дзянніца» і трое хлопцаў з «Палаца».

Рэй на з'ездзе вялі вучоныя-фалькларысты Анатоль Фядосік і Іван Цішчанка. Новы склад Беларускага саюза фалькларыстаў прапанаваў вядомы харэограф Мікола Котаў. З'езд аднагалосна выбраў новага старшыню, склад прэзідыума і рэвізійнай камісіі, зацвердзіў прадстаўнікоў Саюза ў абласных цэнтрах Беларусі.

На з'ездзе была выказана шчырая ўдзячнасць за разуменне ролі фальклору ў жыцці народа і фінансавую падтрымку Міністэрству культуры і друку Беларусі, Міністэрству адукацыі і навукі, аграпрадпрыемству «Ранет-93» (генеральны дырэктар Валерый Сарока), інтэрцэнтру «Бела» (прэзідэнт Ірына Антонава), фонду «Дзеці Чарнобыля» (кіраўнік Генадзь Грушавы), вытворчаму аб'яднанню «Менсккрухмалпрам» (генеральны дырэктар Мікалай Бялько), выдавецтву «Бацькаўшчына» (дырэктар Яўген Лецка).

На з'ездзе з цікавай прамовай выступіў дэпутат Вярхоўнага Савета, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Алег Трусаў, які, дарэчы, найбольш паспрыяў правядзенню з'езда, за што яму выказваем шчырую ўдзячнасць.

**Васіль ЛІЦВІНКА,**
**Старшыня Беларускага саюза фалькларыстаў.**

**На здымку** (злева направа): Тадэвуш Стружэцкі, Васіль Ліцвінка, Ніл Гілевіч, Іван Цішчанка.



*Ніл ГІЛЕВІЧ*

# У СВЯТЛЕ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ІДЭІ

***Выступленне на II з'ездзе Беларускага саюза фальклярыстаў***

Паважаныя калегі і сябры, шаноўныя дэлегаты і госці з'езда! Дазвольце мне перш за ўсё ад сябе і ад Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны сардэчна павіншаваць вас з гэтай значнай падзеяй у духоўным і культурным жыцці нашай краіны, нашага народа. Віншую і жадаю вам усім вялікіх поспехаў у вашай працы.

Фальклор як вельмі важная частка нацыянальнай культуры патрабуе ад нас паглядзець на многія праблемы яго захавання, творчага выкарыстання і развіцця з улікам новых гістарычных абставін, у якіх знаходзіцца сёння наша грамадства. Якія гэта новыя гістарычныя абставіны, спадзяюся, усім зразумела. Беларусь стала — нарэшце пасля доўгіх стагоддзяў цярплівага чакання і барацьбы — суверэннай, незалежнай дзяржавай. Падкрэсліваю: суверэннай, прызнанай амаль усімі краінамі свету, незалежнай дзяржавай. Было б недаравальнай памылкай не ўлічыць гэтую надзвычайную акалічнасць і заставацца ў поглядах і падыходах да праблем фальклору на ранейшых пазіцыях і з ранейшымі настроямі. Кажучы так, маю на ўвазе пазіцыі перш за ўсё афіцыйныя, пазіцыі асоб службовых у галіне культуры і мастацтва, а не пазіцыі вучоных-фальклярыстаў. Навукоўцы ў сваіх поглядах на фальклор, асабліва ў апошнія дзесяцігоддзі, пасьпяхова пераадольвалі вульгарна-сацыялагічныя, навязаныя пэўнай ідэалогіяй, погляды. На вялікі жаль, у рэчышчы афіцыйна-дзяржаўных поглядаў на фальклор доўгі час ішлі многія прапагандысты і папулярызатары народнай творчасці, асабліва некаторыя кіраўнікі фальклорных ансамбляў, самадзейных, а часам і прафесійных калектываў, кіраўнікі клубаў і дамоў культуры. У чым, як і дзе гэта казённа-афіцыйнае стаўленне да фальклору выяўлялася?

Па-першае, выкарыстанне беларускага фальклору па прынцыпу «адчэпнага», інакш сказаць, у якасці экзатычнага дадатку. Як бы спахапіўшыся, таварышы кіраўнікі заяўлялі: «Ах, так надо же что-нибудь из белорусского фальклора в программу включить!». Каб не сказалі недзе там, за мяжой, што ў Беларусі цалкам ігнаруецца беларуская нацыянальная культура. Гэта была пазіцыя яўна антыбеларуская, выяўляць якую ніхто не баяўся і тым больш ніхто не саромеўся.

Па-другое, гэтыя самыя таварышы кіраўнікі, ідэолагі нашай культуры, па зразумелых прычынах, былі не зацікаўлены ў раскрыцці сапраўднага невычэрпнага багацця і чароўнага характву нашага фальклору. Бо за гэтым багаццем і харавством стаяла багацце і харавство душы народа, яго паэтычны і музычны геній, яго духоўная сіла і веліч. У іх інтарэсах было звесці ўсё гэтае багацце да невялікай, зусім абмежаванай колькасці зацяганазаезджаных, нярэдка наўмысна спрымітызаваных і апошленых твораў: некалькі песень, некалькі танцаў, некалькі абрадаў. Гэта была пазіцыя зноў жа антыбеларуская, свядомая і мэтанакіраваная. Яе вытокі ў нацыянальным нігілізме, у ваяўнічым нежаданні дапусціць адраджэнне беларускай культуры — мовы, духоўнасці і самой беларускай нацыі.

Па-трэцяе, было і такое з'явішча ў адносінах да нашага фальклору, у прыватнасці, да выкарыстання нашага народнага меласу, як забіванне ці ўмярцвенне самой душы беларускай народнай песні. Такое разбурэнне апрацоўшчыкамі яе ладавых і рытмічных асноў, пасля чаго ўжо нічога ў ёй беларускага не заставалася. Могуць запярэчыць, што ўсё гэта было ў мінулым, а цяпер сітуацыя істотна змянілася. І аднак жа не будзем спяшацца сябе супакойваць, шаноўныя калегі. Бясспрэчна, сёння ўжо наракаць, што і дома і ў свеце мала гучыць наш фальклор, мы не можам. Колькасць робіць уражанне. У многіх выпадках не толькі колькасць, а і якасць таксама. У нас ёсць без перабольшання выдатныя прафесіянальныя і самадзейныя выканаўцы народных песень і танцаў, нацыянальных беларускіх мелодый. Не сумняваюся, што яны будуць тут сёння з удзячнасцю і не адзін раз названы, — і салісты, і гурты, і ансамблі, што яны самі раскажуць пра сябе, падзеляцца вопытам, і мы парадуемся іхнім поспехам, нашым поспехам.

І аднак жа праблема якасці ў справе прапаганды беларускага фальклору застаецца, на мой погляд, вельмі і вельмі вострай. Наш фальклор дае выканаўцам надзвычайныя магчымасці для творчага самавыяўлення і, калі хочаце, для творчага росту. Але гэтыя магчымасці мы выкарыстоўваем яшчэ далёка не на поўную сілу і вельмі часта на нізкім прафесіянальным узроўні. І зноў жа па нейкіх казённых трафарэтах. Параўнайце, для прыкладу, расійскую тэлепраграму «Играй, гармонь», якую вядуць браты Завалокіны, з нашымі вясковымі тэлевячоркамі. Плакаць хочацца ад крыўды, настолькі гэта параўнанне не ў нашу карысць. Параўнайце нашы фестывалі песні са святамі песні ў Прыбалтыцы, напрыклад усенароднае пяянне нацыянальных песень на Пеўчым полі ў Эстоніі. Нашу канцэртную зададзенасць і рэгламентаванасць з іх сапраўды бязмежнай свабодай і натуральнасцю жыцця ў песні. І вам зноў жа стане горка, скрушна на душы ад усведамлення нашай безгаспадарчасці, нашага няўмення распарадзіцца тым, што маем, паказаць і сабе і свету тое, чым мы можам і павінны ганарыцца. Што перш за ўсё ўражвае, што працінае свядомасць на такім Пеўчым полі ў Прыбалтыцы? Гэта адчуванне еднасці, згуртавання нацыі. Згуртаванасці і паяднанасці нацыі ў песні. Песня аб'ядноўвае народ. Там, на тым полі, бачна, што кожны поўніцца і жыве пачуццём гэтай еднасці і што менавіта гэта пачуццё і прывяло яго на свята. Там і выраз твару, і позірк вачэй у кожнага літаральна крычыць няўрымслівай радасцю: «Вось мы! Вось наша душа! Вось нашы скарбы! Вось тое, чаму мы абавязаны сваім гістарычным існаваннем і чаму мы ніколі не здрадзім!» Скажаце: «Ну, а наш мінулагодні фальклорны фестываль у Пінску? Хіба гэта было не маштабна? Не відовішчна? Не ярка? А наш фестываль народнай полькі на Гомельшчыне? Хіба гэта было па-казённаму трафарэтна і нецікава? А дзесяткі нашых гуртоў і ансамбляў народнай песні і танца, у тым ліку гуртоў аўтэнтычнага музычнага фальклору? Хіба гэта не сведчанне павароту да вытокаў нацыянальнай эстэтыкі і нацыянальнай духоўнасці? Хіба гэта не сведчанне пэўнага пералому ў дзяржаўнай культурна-мастацкай палітыцы?» «Бясспрэчна, так, — адкажу вам на гэта. — Відовішчна было і на фэсце ў Пінску, і здорава, проста кажучы, было на фэсце полькі, і гуртоў таленавітых у нас багата. Усё гэта так. Усё гэта ў нас, на шчасце, сапраўды ёсць. Але скажыце, па-першае, тое пачуццё ўсенароднай еднасці, згуртаванасці ў песні і танцы ў нас было? Можам мы сказаць гэта? — Не ведаю».

Па-другое. А колькі народу бачыла і бачыць гэтыя фестывалі і гэтыя гурты на тэлеэкране? Паказалі адзін раз і то ў самы нязручны для простых людзей час. Паколькі зручны час трэба аддаць замежнаму і айчыннаму эстраднаму крыўлянню. Хіба ж не так? Пра які ж пералом у дзяржаўна-грамадскім стаўленні да фальклору можна гаварыць? Хіба мы ў Беларусі ўжо сапраўды яго належным чынам паставілі на службу нашаму нацыянальнаму адраджэнню, выхаванню пачуцця нацыянальнай годнасці? Умацаванню беларускай нацыянальнай ідэі? Думаю, што да гэтага самага «належным чынам» нам яшчэ далекавата. Ва ўсякім разе, не дай Бог, калі мы супакоімся і спынімся на дасягнутым, калі нас задаволяць і маштабы, і формы, і прафесіянальны ўзровень прапаганды беларускага фальклору на Беларусі. У тым ліку, а можа, і ў першую чаргу, яго прапаганду ў асяроддзі дзятвы і моладзі, сярод дашкольнікаў і школьнікаў, паколькі нацыянальна свядомы народ пачынаецца адтуль, з дзіцячага садка і школы. Нацыянальна свядомы беларускі народ! І дзяржаўна свядомы беларускі народ!

Шаноўныя калегі, дарагія сябры! Вось ідэя ідэй і задача задач, якім мы, свядомыя беларусы, павінны ахвяраваць свае сілы і здольнасці даастатку. Толькі пры ўмове, што мы пастаянна думаем пра гэта і помнім пра гэта, мае сэнс і апраўданне наша праца на ніве асветы і навукі, мастацтва і культуры. Бо толькі праз гэта ўваскрэсне, уздымецца і зойме свой пачэсны пасад наш невядома за што пакараны Богам народ. Толькі праз гэта ён далучыцца, як роўны да роўных, да вялікай супольнасці народаў Планеты.

Зычу з'езду, вам, дарагія калегі і сябры, плённай працы ў гэтай зале.

**Меркаванні**

# Ці трэба маўчаць, калі і ляжачага б'юць?

Здзівіла і нават усхвалявала мяне прапанова В.Смугі («Наша слова» за 18 студзеня) абмежаваць публікацыю ў газеце матэрыялаў з «палітычным зместам». Як пераканаць яго і тых, якія з ім, у памылковасці такой пазіцыі, асабліва ў звязку з новай валтузнёй вакол двухмоўя? Можа будзе нялішне сёе-тое нагадаць, аб сім-тым паразважаць?

Спачатку дзве цытаты. Чытаю ў Савецкай энцыклапедыі (выд. 1941 г.): «Политика США в отношении индейцев... была направлена к тому, чтобы поработить индейцев не только экономически, но и духовно, уничтожить индейскую культуру и язык и сделать из них «американцев».

А вось што пісаў у 1927 годзе вядомы беларускі дзяржаўны дзеяч, пакутнік і патрыёт сваёй Бацькаўшчыны А.Чарвякоў аб палітыцы царскай Расіі ў дачыненні да беларусаў: «Усіх тых, хто паднімаўся на абарону матэрыяльнага становішча, а таксама нацыянальных, культурных асаблівасцей Беларусі, каралі або праганялі... Беларуская мова была прызнана «мужыцкай, хамскай», і супраць яе вялася самая рашучая барацьба».

Як бачыце, і там, за акіянам, і тут, на нашай зямлі, усё рабілася на адзін капыл. І нават адначасна: далучэнне Беларусі да Расіі праходзіла тады, калі ствараліся ЗША.

Таталітарны сталінскі рэжым быў не лепшы за царскі, прынамсі, у нацыянальнай палітыцы. Пасля разгрому так званай нацдэмаўшчыны ўсё беларускае, як і да кастрычніцкага перавароту, зноў пачало ўціскацца, забараняцца, нішчыцца. Памятаю, як у другой палове 30-х гадоў у нашай беларускай школе адзін за другім знікалі нацыянальна свядомыя настаўнікі, а на змену ім, рэпрэсіраваным, прыходзілі «інтэрнацыяналісты», і выкладанне пераводзілася з роднай мовы на «великий и могучий». Вучні рускай школы — гэта былі, галоўным чынам, дзеці нетутэйшых, начальнікаў розных рангаў — цкавалі нас, называлі «деревенщиной», «колхозниками», калі мы гутарылі па-беларуску.

З цягам часу сёй-той стаў саромецца сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі. Не спрыяла нашаму нацыянальнаму высяпванню і тая сфальсіфікаваная гісторыя, якую нам выкладалі на ўроках. З яе вынікала, што беларусы нібы дрэнна прыстасаваны да самастойнага жыцця, заўсёды мелі патрэбу ў апецы. Старанна ўтойвалася барацьба нашых продкаў, ратаваўшых сваю зямлю ад маскоўскага панавання.

Тое, што адбывалася ў нас з роднай мовай у пасляваенныя дзесяцігоддзі, нагадвае добра вядомую з рамана Бальзака шчыгрынавую скуру, якая на вачах усыхае і меншае. Розніца толькі ў тым, што раман фантастычны, а нашы беды былі сапраўдныя. Штогод прыязджаючы падчас водпуску хоць на некалькі дзён на Бацькаўшчыну (чвэрць стагоддзя я нёс армейскую службу ўдалечыні ад яе), выразна бачыў, як усё больш «усыхала» тут беларускасць.

На цёмным фоне гвалтоўнай русіфікацыі амаль ці не «праменем святла» ўявілася мне фраза «Сардэчна запрашаем!», аднойчы ўчутая на замежнай выстаўцы ў Менску. Балюча стала, што гэтыя прыгожыя беларускія словы мне давялося ўпершыню за шмат гадоў пачуць у сталіцы з вуснаў не родзіча, а іншаземца.

Думалася, што пасля прыняцця Закона аб мовах і абвяшчэння незалежнасці краіны больш не будзе адкрытай варожасці да роднага слова, прынамсі з боку дзяржаўных чыноўнікаў. Бо ведаў: напрыканцы 20-х гадоў і нават пазней, калі ўжо ўсяляк ганьбілі нацдэмаў і пачала набіраць абароты рэпрэсіўная машына, дык і тады ні ў друку, ні з трыбун не было зневажальных выказванняў у адрас беларускай мовы. Наадварот, партыйныя функцыянеры стваралі ўражанне, што дбаюць пра яе.

У маёй калекцыі старых газет ёсць нумар «Правды» за 14 студзеня 1932 года, адна са старонак якога прысвечана адкрыццю XIV з'езда КП(б)Б (шапка, дарэчы, надрукавана на беларускай мове). Да нашай размовы мае дачыненне змешчаная тут карэспандэнцыя з Гомеля «Сильней отпор извращениям ленинской нацполитики». У ёй падаецца багата фактаў гэтага скажэння. Напрыклад, камуніст — адказны работнік заявіў, што не хоча размаўляць на беларускай мове. Або яшчэ: на пасяджэннях у гарсавеце па-беларуску пішуцца толькі пратаколы, а выступаюць, галоўным чынам, на рускай мове. Газета нацэльвае гаркам партыі на ўзмацненне барацьбы «против главной опасности — уклона в сторону великодержавного шовинизма». (Дадам ад сябе, што ў Гомелі, які быў далучаны да нашай рэспублікі толькі напрыканцы 1926 года, беларусізацыя пачалася пазней, чым на астатняй яе тэрыторыі.)

Хоць цэнтральны орган ВКП(б) не саромеўся дзе трэба праліць кракадзілавы слёзы (як сказаў адзін пісьменнік з іншай нагоды: «Жарэ сваю ахвяру, а сам плача»), але ўсё ж было б добра, каб цяперашнія «чырвоныя» — зацятыя беларусафобы даведаліся, у чым заключалася, паводле газеты, «искажение ленинской нацполитики». Тым больш, што сучасныя погляды іх любімай «Правды» на вывучэнне беларускай мовы, мякка кажучы, не супадаюць з тагачаснымі. Ці то наша мова стала іншай, ці то неабальшавікі раскапалі яшчэ адзін тэстамент «вождя» — не ведаю.

Затое можна з упэўненасцю адказаць на пытанне Я.Купалы **«Чаго вам хочацца, панове?»**, якое прагучала ў яго вершы «Ворагам Беларушчыны» яшчэ напачатку стагоддзя. Сёння, як і тады, ім, вялікадзяржаўным шавіністам, не цярпіцца ўсіх беларусаў зрабіць рускімі, а саму Беларусь — часткай (калідорам, прахадным дваром) Расіі. Цяпер пачаўся новы шалёны наступ на нашу мову — скарб нацыі. Сыплюцца паклёпы і пагрозы, праклёны і абразы, адрасаваныя яе носьбітам і рупліўцам. Тым, хто зневажае матчына слова, усюды даецца зялёная вуліца. Да іх паслуг — дзяржаўнае тэлебачанне і радыё, шматтыражны расійскамоўны друк, уладныя структуры, памяшканні і г.д. Маўчаць у адказ?

Чатыры месяцы таму Цэнтрвыбаркам ужо адмовіўся выносіць на плебісцыт пытанне пра дзяржаўнае двухмоўе як антыканстытуцыйнае. І вось цяпер той, хто павінен гарантаваць дакладнае выкананне Асноўнага Закона, спасылаючыся на сваё перадвыбарнае абяцанне, зноў распальвае канфрантацыю. Аднак у тэзісах праграмы кандыдата ў Прэзідэнты А.Лукашэнкі, надрукаваных у рэспубліканскіх газетах, наконт усенароднага галасавання па згаданаму і іншых пытаннях, якія закранаюць суверэнітэт Беларусі, нічога няма. Хутчэй за ўсё ён проста гаварыў пра гэта выбаршчыкам падчас прэзідэнцкай гонкі. Але ў любым выпадку бясспрэчна вяршэнства Канстытуцыі над абяцаннямі ці праграмамі нават першай асобы ў дзяржаве. Зноў маўчаць?

Не, ні ў якім разе нельга пагадзіцца з паважаным чытачом «Нашага слова». Наадварот, цяпер, як ніколі, патрэбны ў газеце матэрыялы, якія выкрываюць палітычную падаплёку нечуванай агрэсіўнасці ворагаў беларушчыны, у тым ліку іх імпэт да незаконнага рэферэндуму. Ясна ж, як божы дзень: русіфікацыя была і ёсць свядома здзяйснянай палітыкай імперскіх сіл. Менавіта яны здаўна, так бы мовіць, да лінгвістыкі прымешваюць палітыку. Дык чаму ж мы павінны цурацца яе, калі гаворка ідзе пра дэрусіфікацыю, нацыянальнае Адраджэнне, урэшце, пра тое, што трэба рабіць, каб заўтра нам не апынуцца ў стане, які нагадвае індзейскія рэзервацыі?

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**
**г.Менск.**

ПА СУТНАСЦІ

# Наменклатура і эліта: драма беларускіх кіраўнікоў

*Улетку 1994 года, рыхтуючыся да міжнароднай канферэнцыі ў Мічыганскім універсітэце, доктар гістарычных навук, прафесар БДУ Уладзімір Снапкоўскі пачаў даследаваць новую ў беларускай сацыялогіі і паліталогіі праблему — працэс фарміравання ды існавання нацыянальнай эліты ў Беларусі. Гэтай жа тэме прысвечана і гутарка з ім карэспандэнта «Нашага слова».*

**— У нядаўнія часы існаванне грамадскай эліты савецкая навука лічыла буржуазным домыслам, хаця ў рэальнасці гэтага сумнення не меў ніхто. Дык што ж гэта такое — эліта?**

— Ёсць класічнае вызначэнне гэтага паняцця, дадзенае яшчэ ў 30-х гадах амерыканскімі палітолагамі Парэта і Моска. Гэта — замкнуты слой грамадства, створаны ў выніку адбору на працягу некалькіх пакаленняў і які (найбольш гэта датычыцца палітычнай эліты) прэтэндуе на вызначэнне стратэгічных кірункаў развіцця грамадства, іх фармуляванне і ажыццяўленне. Існуюць таксама эліты: эканамічная, інтэлектуальная, адміністрацыйная, рэлігійная, вайсковая, навуковая і г.д., але яны — часткі аднаго цэлага — той групы грамадства, якая вызначае яго лёс.

**— І калі ж, на Ваш погляд, пачаў фарміравацца гэты слой у Беларусі?**

— Нацыянальная эліта паўстае разам з нацыяй. Успомніце, на мяжы мінулага і гэтага стагоддзяў пачаўся новы ўздым беларускага нацыянальнага руху. Менавіта тады, на ўздыме новай хвалі Адраджэння, беларускія дзеячы пачалі фармуляваць ідэі існавання беларускага народа ва ўласнай дзяржаве. Купала, Луцкевічы, Ластоўскі ды іншыя беларускія інтэлектуалы таго часу не проста выказалі ідэю дзяржаўнасці нацыі, але і ўвасобілі яе ў сакавіку 1918 года, стварыўшы Беларускую Народную Рэспубліку (БНР).

БНР праіснавала нядоўга, але беларускі нацыянальны рух аказаўся дастаткова моцны, каб не згаснуць — і ў эміграцыі, і ў БССР. Так, нягледзячы на ўсё, свая эліта была і ў Савецкай Беларусі. Менавіта яна праводзіла палітыку беларусізацыі, стварала тэрытарыяльныя беларускія вайсковыя фарміраванні... Існаваў дастаткова шырокі нацыянальны рух і яго ўвасабленнем была не толькі БНР, але і БССР з яе, хай і пракамуністычнай, але выразна нацыянальнай элітай.

**— Але ж гэта працягвалася нядоўга...**

— Так, ужо ў 30-я гады людзей, пра якіх мы гаворым, спасціг трагічны лёс. Большасць з іх была знішчана палітычнымі рэпрэсіямі. Аб гэтым сведчыць статыстыка. Так, ужо на пачатку 30-х гадоў толькі 15% прафесуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта складалі беларусы. Астатнія 85% былі знішчаны як беларускія нацыяналісты і заменены выхадцамі з Расіі. Вынішчэнне нацыянальнай эліты стала дзяржаўнай палітыкай, якая мела за мэту засцерагчы прарасійскую Савецкую ўладу ад пагрозы ўздыму нацыянальнага руху.

**— З Вашых словаў вынікае, што беларуская эліта не знішчалася, а пераўтваралася?**

— Так, адбылося не проста вынішчэнне, а замяшчэнне. Знішчаных кіраўнікоў партыі, урада, арміі, адміністрацыйнага апарату замянялі іншымі, прадстаўнікамі пераважна рускай нацыянальнасці, якія не маглі і не збіраліся абараняць інтарэсы чужога ім народа. Тая эліта, якая стварыла БССР як нацыянальную рэспубліку, была замешчана іншай — не нацыянальнай, а дзяржаўнай савецкай, экспартаванай. Разумееце, апарат кіравання быў патрэбны, але з таго часу ён прадстаўляў ужо не тутэйшых, а цэнтр, Маскву.

**— Ці даследавалі Вы спробы беларускай нацыянальнай эліты вярнуць страчаныя ёй пазіцыі ў час германска-савецкай вайны — я маю на ўвазе дзейнасць урада калабарантаў і яго структур?**

— У Інстытуце гісторыі Акадэміі навук я займаюся тэмай беларускай палітычнай эміграцыі ў XX стагоддзі і таму мушу сказаць: так, у час Другой сусветнай вайны частка прадстаўнікоў беларускай палітычнай эліты зрабіла стаўку на Германію. Яны спадзяваліся, што з дапамогай немцаў ажыццявяць тое, што не далі здзейсніць бальшавікі, — стварыць незалежную беларускую дзяржаву. Але гэта, на мой погляд, было паўтарэннем старой памылкі нашых палітыкаў — спробы зрабіць стаўку на знешнюю сілу.

Напомню, што сярод дзеячаў БНР былі такія, хто імкнуўся абаперціся на кайзераўскую Германію. А пасля заявы Пілсудскага аб палітычнай і рэлігійнай роўнасці народаў Рэчы Паспалітай знайшліся беларускія інтэлектуалы (напрыклад, Антон Луцкевіч), зарыентаваныя на Польшчу. І да гэтага былі рэальныя падставы: дазволы на адукацыю ў роднай мове, на прадстаўніцтва ў органах улады... Была і прасавецкі настроеная група Жылуновіча і Чарвякова, якой далі магчымасць спачатку выдаваць у Расіі беларускую газету, а потым нават стварыць у Смаленску ўрад БССР. Дык навошта ж здзіўляцца стварэнню ў канцы 1943 года, ва ўмовах акупацыі, Беларускай Цэнтральнай Рады? Усё згаданае мною — ступені эвалюцыі беларускай палітычнай эліты, чарговыя спробы адраджэння дзяржавы беларускага народа пры дапамозе звонку.

Усе гэтыя няўдалыя спробы мелі адну прычыну — слабасць нацыянальнага руху. І ўсе яны былі аднолькава марнымі — стваральнікі і БНР, і БССР, і БЦР альбо загінулі, альбо эмігравалі, ратуючы жыццё.

Дарэчы, спробы арыентавацца на сілы звонку робяцца нават цяпер: адна частка нашай палітычнай эліты, імкнучыся дасягнуць сваіх мэтаў, сёння арыентуецца на Расію, другая — на Захад...

**— Гаворачы аб гісторыі беларускай дзяржаўнасці і яе захавальнікаў, нельга абмінуць увагай перыяд ад сканчэння вайны і да абвяшчэння незалежнасці...**

— Думаю, вашы чытачы маюць уласныя меркаванні аб беларускасці і дзяржаўнасці Беларусі таго часу. А для акрэслення палітычнай эліты БССР ёсць дакладная назва: наменклатура. Гэтым тэрмінам у дачыненні да савецкіх вярхоў карыстаюцца палітолагі ва ўсім свеце. Таму паўтару: гэта была не эліта, а наменклатура, якая найперш адстойвала свае карыслівыя інтарэсы, якая не мела палітычных ці ідэалагічных перакананняў, якая ў адрозненне ад эліты гатовая была служыць любой ідэі і любому рэжыму.

**— Што, на Ваш погляд, стала прычынай таго, што і ў беларускіх па паходжанні лідэраў пачалі дамінаваць менавіта гэтыя рысы?**

— Вынік узаемнага ўплыву розных працэсаў. Пачынаючы з 30-х гадоў мясцовыя кіраўнікі ўсіх узроўняў адпаведным чынам адбіраліся і выхоўваліся на ідэях адзінства савецкага народа, неабходнасці зліцця нацый, адсутнасці ў Беларусі ўласных інтарэсаў... Яны разумелі бутафорнасць беларускай дзяржаўнасці.

Другім чыннікам была слабасць нацыянальнай глебы і зрусіфікаванасць вышэйшага кіраўніцтва.

**— У працы амерыканскага даследчыка Майкла Урбана, выдадзенай у канцы 80-х гадоў і прысвечанай разгляду эліты БССР, згадваецца адна з моцных яе груповак — «партызанская»...**

— На мой уласны погляд, Беларуссю з паваеннага часу і да канца 80-х гадоў кіравалі «партызаны» — Машэраў і ягонае асяроддзе. Падчас вайны яны назапасілі палітычны капітал, які выкарыстоўвалі ў сваёй дзейнасці. Была створана сапраўдная міфалогія партызанскага руху — кнігі, фільмы, песні... Барацьбіты за Савецкую ўладу паўставалі ў аўры змагароў з фашызмам і гэта надавала ім папулярнасць.

Але і гэтая эліта фарміравалася не паводле прынцыпу кваліфікацыі, кампетэнтнасці. Асноўным патрабаваннем быў удзел у партызанскай барацьбе, а пазней — лаяльнасць да ўладаў. Таму і «партызанская» эліта стварала рэгіянальныя, сапраўды партызанскія ўладныя групоўкі дзеля абароны нейкіх сваіх, местачковых, а не нацыянальных інтарэсаў. Так працягвалася да смерці Машэрава. Калі да ўлады прыйшлі Кісялёў, а потым Слюнькоў, маскоўскі цэнтр пачаў прасоўваць наперад сваіх людзей...

**— Дык, можа, гэтая новая эліта 80-х гадоў дала пачатак працэсу перамен?**

— Не! Канешне, новых лідэраў ужо не трэба было прысылаць з Масквы, як паўстагоддзя таму. Яны былі тутэйшымі, беларусамі, тым не менш, у адрозненне ад эліты краін Балтыі, Украіны, Расіі ці былой Югаславіі, «нашы» не мелі нават думкі аб беларускай палітычнай ці нацыянальнай арыентацыі. Шлях беларускай наменклатуры да нацыянальнай ідэі быў надзвычай марудным. Мясцовыя правадыры не хацелі незалежнасці, не былі падрыхтаванымі да яе. За незалежнасць змагалася іншая эліта — нацыянальная інтэлігенцыя, новыя палітычныя лідэры. А наменклатура была разгублена — нездарма ж урад Кебіча ўсе чатыры гады свайго існавання дзейнічаў, азіраючыся на Маскву! Наша эліта не мела ні інтэлектуальных напрацовак, ні жадання рабіць палітычнымі прыярытэтамі нацыянальныя інтарэсы.

**— Акрамя БССРаўскай эліты існавалі і маргіналы — людзі, якія з прычыны сваёй моўнай, нацыянальнай ці палітычнай арыентацыі не маглі атрымаць вышэйшы сацыяльны статус. Але прыйшоў іншы час...**

— Так, і цяпер існуе рэальнае супрацьстаянне паміж старой і новай элітамі, ці, дакладней кажучы, паміж старой — з урада Кебіча ды новай — з урада Лукашэнкі наменклатурамі, з аднаго боку, і з нацыянальнай элітай, якая сфарміравалася на ўздыме новай хвалі Адраджэння, — з другога. Сярод палітычных сілаў — гэта партыі нацыянальна-дэмакратычнага кірунку.

Існуе супрацьстаянне і паміж іншымі элітамі. Вядома, што ў арміі адбылася серыя звальненняў нацыянальна арыентаваных афіцэраў. Ёсць прыкметы ўнутранай барацьбы і ў асяроддзі праваслаўнай і каталіцкай царкоўных эліт. Значны падзел існуе і ў асяроддзі творчай эліты, у першую чаргу пісьменніцкай.

Тут можна сфармуляваць зыходную пасылку: сёння беларускае грамадства падзелена. З аднаго боку, — прыхільнікі аднаўлення СССР, інтэграцыі нашага краю ў Расію, панавання расійскай мовы. З другога, — тыя, хто выступае за развіццё беларускай дзяржаўнасці на нацыянальнай глебе і панавання нацыянальнай ідэі. Зыходзячы з гэтага, сфармаваліся і дзве групоўкі эліты рознай палітычнай і нацыянальнай арыентацыі.

**— Апошнім часам чутны выказванні аб тым, што беларуская нацыянальная эліта стрымлівае развіццё іншых народаў Беларусі...**

— Калі пачынаеш вывучаць нацыянальны склад эліты — палітычнай, навуковай, вайсковай ды іншых, — дык лёгка заўважыць, што беларусы ў іх прадстаўлены часцей недастаткова. Так, сёння яны складаюць толькі 30% афіцэрскага корпуса краіны — ці гэта шмат? Я прывяду лічбы, пададзеныя амерыканскім даследчыкам Стэфанам Гаракам у ягоным артыкуле «Беларусь: мадэрнізацыя, чалавечыя правы і нацыяналізм», выдадзеным у Канадзе ў 1974 г. Дык вось, паводле Горака, беларусы ў кіруючай эліце БССР складалі 40% — меншасць. У групе інтэлігенцыі працэнт рускіх і беларусаў быў роўным — па 50%. Сярод рабочай і сялянскай арыстакратыі беларусаў было 55% і 60% адпаведна. Затое беларусы пераважалі сярод служачых — 70% і рабочых — 80%. І, нарэшце, беларусы складалі 95% сялянства. Нагадаю, што паводле перапісу 1989 года нацыянальны склад насельніцтва краіны выглядаў так: беларусы — 77,9%, рускія — 13,2%, палякі — 4,1%, украінцы — 2,9%, яўрэі — 1,1%, астатнія — менш за 1%.

Калі гаварыць аб інтэлектуальнай эліце, дык у канцы 80-х гадоў колькасць кандыдатаў і дактароў навук на 100 000 асобаў насельніцтва сярод рускіх у 5—6 разоў перавышала іх колькасць сярод беларусаў. Гэткі стан рэчаў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця захоўваецца дагэтуль. Дык ці варта гаварыць аб нейкім прыгнёце з боку прадстаўнікоў карэннай нацыянальнасці? Так ці інакш, сёння эліта Беларусі і беларуская эліта не тое самае. Цяпер мы збіраем плён панавання тут чужой культуры і чужой эліты.

**— Напачатку стагоддзя беларуская эліта стварыла беларускую дзяржаву. Але ці здолее цяперашняя беларуская дзяржава стварыць новую нацыянальную эліту?**

— Працэс узаемадзеяння гэтай часткі грамадства і дзяржавы двухбаковы. І я ўпэўнены: калі будзе існаваць наша дзяржава — будуць падставы для развіцця ўсіх аспектаў беларушчыны. Але для таго каб захаваць гэтую дзяржаву, патрэбныя намаганні ўсяго нашага народа, і, канешне ж, найбольш дзейснай яго часткі. Бо сам факт існавання беларускай дзяржавы змушае эліту, нават старую, рабіць захады да абароны гэтай дзяржавы. Але чыннікам захавання незалежнай Беларусі стане, канешне ж, яе новая эліта, якая стварыла нацыянальныя партыі дэмакратычнай арыентацыі. Сёння на Захадзе паняцце нацыянальных інтарэсаў ёсць сінонім паняцця дзяржаўных інтарэсаў. Мяркую, што гэтак жа будзем успрымаць іх і мы: інтарэсы дзяржавы як інтарэсы нацыі, якая аб'ядноўвае ўсе нацыянальнасці на тэрыторыі Беларусі.

**— І апошняе пытанне: у чым Вы бачыце прызначэнне і ролю менавіта беларускай эліты?**

— Эліта паўстае не дзеля здзяйснення нейкай пэўнай мэты. Гэта тая частка грамадства, якая фармулюе і ажыццяўляе яго патрабаванні, абірае кірункі яго развіцця. Сёння гісторыя дала нам шанс зрабіцца народам і мець сваю дзяржаву. І эліта — тыя, што гавораць і дзеюць ад імя народа, могуць яго скарыстаць. Спадзяюся, яны зробяць гэта.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

РЭХА

## Хвароба псіхікі мае сацыяльнае паходжанне

У газеце «Звязда» (4.01.1995 г.) змешчана гутарка Уладзіміра Хількевіча з прафесарам кафедры псіхіятрыі Менскага медінстытута Раманам Аляксандравічам Еўсягнеевым пад назвай «Перастаньце трывожыцца і пачніце жыць, услед за Дэйлам Карнэгі раяць беларускія псіхіятры». Водгук на гэтую публікацыю даслаў нам наш сталы чытач і аўтар, псіхіятр Сяргей Андрэевіч Язерскі. Прапануем яго да ўвагі нашых чытачоў.

Інтэрв'ю прафесара Р.А.Еўсягнеева газеце «Звязда» 4.01.95 г. мае шмат таго, з чым можна толькі згадзіцца. Гэта і сцвярджэнне пра верад ад непрафесійнага лячэння і сцвярджэння пра неабходнасць Закона аб ахове псіхічнага здароўя. Пра апошняе пытанне я пісаў у заметцы «У палоне старых інструкцый» («Народная газета», 6.04.1991 г.).

Але я хачу засяродзіць увагу на тым, з чым можна паспрачацца. Ці можна лічыць псіхічнае здароўе нацыі паказчыкам яе эканамічнага стану? Можа, эканамічны стан з'яўляецца ўмовай для захоўвання псіхічнага здароўя? А што захоўваць у большасці паслясавецкіх людзей?

Савецкае грамадства было працята хлуснёй, словы разыходзіліся з рэальнасцю. Яшчэ пры камуністах радавы чалавек наогул зняверыўся ў існаванні ў нашым Свеце чалавечай годнасці, спагадлівасці, добразычлівасці і добрасумленнасці, бескарыслівасці і іншых сапраўды чалавечых якасцяў. З гэтай зняверлівасцю чалавек страціў маральныя арыенціры, пазбавіўся крытычных здольнасцяў, адказнасці за сябе і свой народ, ператварыўся ў частку статка, якому было абыякава ісці за камуністамі ці за астролагамі, экстрасэнсамі, варажбітамі і г.д. У сляпых змяніліся павадыры, існасць з'явы — адсутнасць маральнай апоры — засталася.

Людзі ў сваёй большасці пачалі арыентавацца на матэрыяльныя каштоўнасці. Так нарадзіўся «страўнікавы патрыятызм», «спажывецкая любоў». Запанавала выгаднасць: не сорамна пазбавіцца ад састарэлых бацькоў, ад хворай ці менш адукаванай жонкі, ад «беднай» (спрэчнае пытанне!) роднай мовы.

Дэфект маральнасці — хвароба псіхікі і мае сацыяльнае паходжанне. Няма маральнасці — скажаецца сэнс жыцця, скажаецца і набліжаецца да жывёльнага ўзроўню: «жыць, каб есці і мець патомства».

Каб пражыць жыццё чалавекам, трэба адчуваць сваю беспераыннасць — ад продкаў да нашчадкаў мы — звяно бясконцага ланцужка. Мы ў якасці такога звяна маем асабістае значэнне, маем сваё месца ў гісторыі свайго роду і шанец мець месца ў гісторыі сваёй краіны, свайго этнасу, з якім нас зніто́ўваюць мова і традыцыі, фальклор продкаў. Іх мы павінны перадаць нашчадкам.

Душэўнае здароўе асобы і нацыі можа надаць пачуццё сваёй годнасці, любоў да родных сымбаляў. Адказнасць за сябе не можа быць без адказнасці за свой родны кут, за Радзіму.

Вось гэтых, на мой погляд, вельмі важных чыннікаў, ад якіх залежыць здароўе нацыі і апрычнага чалавека, праф. Р.А.Еўсягнееў не заўважыў.

На мой погляд, лепш было б зычыць людзям: адраджайце пачуццё сваёй годнасці і пачуццё сваёй адметнасці — і вы пачняце жыць.

# Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ: «Рускія і палякі пераканалі мяне ў тым, што я — беларус»



*Інтэрв'ю прафесара Варшаўскага універсітэта, ганаровага прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта, ганаровага старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства і старшыні праўлення беларусазнаўчага таварыства ў Польшчы, сустаршыні Беларускага саюза фалькларыстаў Аляксандра Баршчэўскага.*

**— Спадар Баршчэўскі, Вы шмат гадоў працуеце на ніве беларускай культуры. У свеце Вас ведаюць як вучонага, паэта і грамадскага дзеяча. Зразумела, што здабыць высокія навуковыя званні і ганаровыя тытулы, а тым больш стаць нацыянальным паэтам Беларусі, жывучы ўвесь час па-за яе межамі, справа не з лёгкіх. Таму на пачатку нашай гутаркі хацелася б ад Вас пачуць пра вытокі жыццёвай дарогі, што завяла Вас аж так далёка.**

— Я нарадзіўся ў даваеннай Польшчы на Беласточчыне. Родная вёска Бандары — на ўскраіне Белавежскай пушчы, за 8 кіламетраў ад сучаснай мяжы з Рэспублікай Беларусь. Паходжу з праваслаўнай сям'і. Бацька і дзядзькі ваявалі ў Першую сусветную вайну ў шэрагах царскай арміі. На жаль, у спадчыну я пераняў тую памылковую тэзу, якая яшчэ і сёння ў нейкай ступені праяўляе свой віталізм, а менавіта, што раз ты праваслаўны, то і рускі.

**— Вы лічылі сябе рускім?**

— Не лічыў, бо памятаў размову са сваім дзядзькам, які ў 1914 г. быў прызваны ў Балтыйскі флот. Ён мне казаў, што як ішоў служыць у армію, то быў пераканаы, што ён рускі, а тым часам рускія, з якімі давядося служыць у флоце, пераканалі яго ў тым, што ён беларус. А чаму? Таму што высмейвалі кожнае яго слова. А гаварыць ён мог толькі па-свойму. Гэта высмейванне і зрабіла з майго дзядзькі свядомага беларуса. Думаю, штосьці падобнае адбылося і са мной, хоць у флоце я не служыў. Праявы польскага і рускага нацыяналізму пераканалі мяне ў тым, што я ані паляк, ані рускі, а толькі беларус, і што трэба трымацца свайго нават тады, калі даводзіцца плаціць за гэта пэўную цану. Несумненна, усе тыя, хто падкрэслівае сваю іншасць у адносінах да большасці, дзе б яны ні жылі ў свеце, у нейкай ступені церпяць і плацяць за гэта пэўную цану. Такую цану плачу і я. Не кажу, што цярплю дыскрымінацыю з нагоды маёй нацыянальнай прыналежнасці да беларускага народа, аднак тое, што не залічваю сябе да нацыянальнай большасці ў Польшчы, ацэньваецца некаторымі адмоўна.

**— Вы адрозніваеце шавінізм ад нацыяналізму?**

— Гэта розныя з'явы. Шавінізм — з'ява агідная, а нацыяналізм — нармальная і здаровая. На маю думку, апошнюю якасць (нацыяналізм) трэба прышчэпліваць беларускім сэрцам, асабліва сёння, калі наша нацыя такая аслабленая. Калі нацыяналіст на першае месца ставіць сваё, адначасна з павагай ставячыся і да чужога, то шавініст на першае месца ставіць сваё і топча нагамі, ненавідзіць усё чужое. Польскі нацыяналізм дае прыклад беларусам, як цаніць, шанаваць і бараніць сваю мову, культуру, нацыянальную самабытнасць, урэшце, гонар ва ўмовах іншаземнага ўціску. У пасляваенны час польскі народ не паддаўся ўплыву з Усходу ў такой меры, як беларускі, і захаваў нацыянальнае адзінства і годнасць.

**— Вы вучыліся ў беларускай школе?**

— У польскай. Беларускіх у маёй мясцовасці не існавала. Я належаў да моладзі, што ў часе вайны не вучылася. На 1948 год, у свае васемнаццаць, я меў пяць класаў пачатковай адукацыі. Каб нагнаць упушчанае, паступіў на спецыяльныя двухгадовыя курсы, на падабенства савецкага рабфака, што давалі падрыхтоўку за праграму сярэдняй школы. Такія школы ў нас ствараліся пасля вайны для пераросткаў. Курсы скончыў у 1951 г. у Любліне, а паколькі традыцыйныя сімпатыі да «старэйшага брата» яшчэ адыгрывалі ролю, паступіў на рускую філалогію ў Лодзі. Калі заканчваў вучобу, ужо адчуваў, што ў мундзіры расійскай свядомасці мне цесна. Ён мяне душыў. І калі дачуўся, што ў Варшаўскім універсітэце ствараецца катэдра беларускай філалогіі, паехаў туды і папрасіў прыняць мяне на працу, заявіўшы, што я беларус і хацеў бы працаваць менавіта на гэтай катэдры. З 1956 г. я там і працую. Абараніў кандыдацкую, затым доктарскую дысертацыі. Кандыдацкую па творчасці Якуба Коласа, а доктарскую на тэму: «Беларускі фальклор і абрадавасць Усходняй Беласточчыны (нараджэнне, вяселле, смерць)».

**— Працягваеце ствараць падручнікі па беларусазнаўству?**

— Я аўтар двух падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры для студэнтаў. Першы прысвечаны характарыстыцы беларускага фальклору, другі — літаратуры Вялікага Княства Літоўскага. У перспектыве — падручнік па беларускай літаратуры XIX стагоддзя і нашаніўскаму перыяду. З'яўляюся сааўтарам двух падручнікаў па беларускай літаратуры для 8 класа. У сааўтарстве з вядомымі даследчыкамі беларускай гісторыі Аляксандрай Бергмановай і Юрыем Тамашэўскім выдаў на польскай мове кнігу пра папулярнага рэвалюцыйнага беларускага пасла Сойму Рэчы Паспалітай Ігната Дварчаніна. Апублікаваў дзесьці з семсот артыкулаў на старонках беластоцкай «Нівы» і беларускіх календароў па гісторыі беларускай літаратуры і фальклору. Цяпер рыхтую кніжкі па беларускаму літаратурнаму руху ў Польшчы і гісторыі беларускай эміграцкай літаратуры. На шчасце, у польскіх бібліятэках знаходжу шмат беларускай эміграцкай перыёдыкі.

**— А ў беларусазнаўстве што для Вас на сённяшні дзень найбольш прыцягальнае?**

— Мабыць, фальклор. Для мяне ён — народная інтэрпрэтацыя ўсяго, што ёсць на свеце: палітыкі, рэлігійнага і нацыянальнага пытанняў, іншых праблем. Матэрыялы такога роду я збіраў і збіраю сам у час фальклорных экспедыцый. Часам надараюцца надзвычай цікавыя сітуацыі.

**— Напрыклад?**

— Напрыклад, народная інтэрпрэтацыя кахання. З боку мужчын і з боку жанчын погляды на гэту праблему дыяметральна адрозніваюцца. Або як па-рознаму людзі ацэньваюць капіталізм. У «Ніве» я нават змясціў публіцыстычны цыкл «Беларускія капіталісты», а таксама цыкл артыкулаў пад назвай «Вайсковы саюз паміж Расіяй і Беларуссю». Галоўнае ў гэтых інтэрпрэтацыях — а я рыхтую вялікі том да друку — выказванні людзей на зададзеную тэму. Мой каментар адыгрывае другарадную ролю. Як бачыце, я цвёрда стаю на беларускім грунце і не думаю, што ёсць такая сіла, якая прымусіла б мяне яго пакінуць. Я не герой і не падзвіжнік, але, несумненна, належу да тых рэдкіх у Польшчы беларусаў, якія, пастаянна жывучы ў вялікім горадзе, дома паслугоўваюцца выключна роднай мовай. І не толькі дома, а і на вуліцы, і ў транспарце, не кажучы ўжо пра той час, калі даводзіцца бываць на Беласточчыне.

**— А ў Варшаўскім універсітэце на сваёй катэдры?**

— Калі да мяне, загадчыка катэдры беларускай філалогіі, прыходзяць студэнты, я заўсёды з імі размаўляю па-беларуску. Аднойчы мне зрабіў заўвагу дэкан, а я яму адказаў, што раблю гэта з дыдактычнымі мэтамі — дзеля карысці навучання і выхавання. І з таго часу ва універсітэце ніхто з беларускай мовы праблемы не робіць. Лічу, што мы непаслядоўна прымяняем беларускасць у жыцці, пасуем перад тымі, хто нас высмейвае за мову і прыналежнасць да свайго народа. Мы ўсё час жывём у раздвоеным стане, у няшчырасці, у нейкім вечным прыніжэнні перад самаўпэўненай чужароднай стыхіяй і часта саромеемся таго, чым павінны ганарыцца. Я калісь ішоў з вашым вядомым гісторыкам літаратуры з Акадэміі навук Беларусі. Увесь час мы гаварылі з ім па-беларуску, а як толькі выйшлі на вуліцу, ён адразу зацвыркаў па-расійску. І што для мяне сёння самае драматычнае, гэта межы Рэспублікі Беларусь, якія дагэтуль, і пасля абвяшчэння незалежнасці, застаюцца расійскімі і савецкімі. Вось свежы прыклад: еду беларускім цягніком з Варшавы ў Менск. Уваходзіць беларускі пагранічнік. Адкрывае кожнае купэ і пытае:

— Расіяне? Расіяне? Расіяне?

Сядзяць беларусы — едуць хто ў Віцебск, хто ў Полацк і ні адзін з іх не запярэчыў. Толькі я сказаў, што я не расіянін. А хто?

— Беларус.

— Предъявите документы! Праверыў пашпарт і сказаў:

— Какой же вы белорус? Это же польский паспорт!

— Я грамадзянін Польшчы, але па нацыянальнасці я — беларус.

— Какой паспорт, такая и национальность.

**— Як кажуць, каментары лішнія.**

— Сапраўды. На маю думку, калі Беларусь хоча здабыць нейкую пашану з боку іншых народаў і замежных суайчыннікаў, то павінна задбаць перад усім аб тым, каб мяжа стала нацыянальнай. Бо калі прылятаеш у Менскі аэрапорт або перасякаеш дзяржаўную мяжу Беларусі ў Брэсце ці Гародні, то пасля такіх размоў, як мая з гэтым пагранічнікам, 80 працэнтаў таго пераканання і той надзеі, што ты прыбыў у суверэнную і незалежную Беларусь, адразу прападае. Бачна, што краіна не нацыянальная, што ніякая. Ведаеце, у сваёй сітуацыі я патрабую няспыннай падтрымкі з боку свайго народа, — не фінансавай, не матэрыяльнай, а духоўнай. І калі я прыязджаю ў Беларусь і чытаю ў газеце, што з падачы Прэзідэнта зноў усплыло пытанне аб рэферэндуме па беларускай сімволіцы (каб яе адмяніць) і двухмоўі (каб другой дзяржаўнай мовай зрабіць рускую), то для мяне гэта страшэнная траўма, страшэнны ўдар. Я быў на Беларусі ў чэрвені і праслухаў па тэлебачанні ўвесь прэзідэнцкі марафон. Кандыдат у прэзідэнты Лукашэнка абяцаў, што ён запусціць заводы і фабрыкі, стрымае рост цэн, пакончыць з карупцыяй, інфляцыяй і г.д. То чаму ў гэтым аспекце, стаўшы Прэзідэнтам, Лукашэнка не рэалізоўвае волю народа і не выконвае дадзеныя яму абяцанні. А замест абяцаных рэформ і паляпшэння жыцця ён узяўся знішчаць нацыянальныя сімволіку і мову.

І яшчэ адно. Беларусы раскіданы па ўсяму свету і маюць уплыў на ўрады тых краін, у якіх жывуць. То ці захочуць яны дапамагаць такой Бацькаўшчыне, якой яна зараз становіцца, дзе, як і пры сталінізме, гань-буецца ўсё нацыянальнае. Яшчэ адзін прыклад з гэтай, як кажуць, оперы: нядаўна адбылася сустрэча прэм'ера Польшчы Паўляка з прэм'ерам Беларусі Чыгіром. Камедыйнасць сітуацыі заключалася ў тым, што перакладчык ад імя прэм'ера Польшчы паслугоўваўся беларускай мовай, а перакладчык ад сп.Чыгіра – расійскай. Ці не ёсць гэта форма кампраметацыі сваёй дзяржавы, сваёй нацыі і нацыянальнага гонару?

**— Раскажыце пра беларускія справы ў Польшчы. Іх плюсы і мінусы.**

— Нашы мінусы вынікаюць з нашай нацыянальнай слабасці і непаўнацэннасці. Тое, што характарызуе беларускі народ у Беларусі, выступае ў нейкай меры і ў Польшчы, з той, аднак, розніцай, што ў Польшчы беларуская вёска цалкам размаўляе на роднай мове, чаго няма ў вас. З гэтага вынікае, што нацыянальны ўціск на трохсоттысячны беларускі этнас на тэрыторыі Польшчы намнога слабейшы за той, які церпяць мільёны беларусаў на сваёй радзіме. Яшчэ адзначу, што ў Польшчы не была знішчана дзяржавай ніводная царква. Наадварот, сакральнае будаўніцтва бурна развіваецца і дзяржава гэтаму дапамагае.

**— А што сабой уяўляюць арганізацыйныя формы беларускага руху ў Польшчы?**

— Беларускі рух у Польшчы ажывіўся пасля таго, як там адбыўся паварот да новай нацыянальнай палітыкі. Пераломным стаў 1956 г. У вёсках адрадзілася беларуская школа, у Варшаўскім універсітэце ўзнікла катэдра беларускай філалогіі, а ў Беластоку пачало працаваць Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган штотыднёвік «Ніва». У канцы 80-х гадоў пачалі дзейнічаць беларускія суполкі — нешматлікія, з рознай палітычнай арыентацыяй. Гэта Беларускае дэмакратычнае «Задзіночанне», Беларускі акадэмічны саюз (БАС), Саюз журналістаў у Польшчы, Саюз беларусаў у Польшчы, літаратурнае аб'яднанне «Белавежа», маладзёжнае аб'яднанне «Звяз». На жаль, паміж імі няма згоды. Я належаў і буду належаць да таварыства, і мы прынялі для сябе такую філасофію: ні ў якім выпадку не нападаць на іншыя беларускія арганізацыі, незалежна ад таго, якой праграмай яны карыстаюцца і як адносяцца да Таварыства і яго работы. Ні палак, ні каменняў, ні памыяў у сваім арсенале мы не маем, а адно толькі добрае слова.

**— Як ідуць справы ў «Белавежы»?**

— Аб'яднанне налічвае чалавек 15 паэтаў і празаікаў. Гэта Віктар Швед, Нядзея Артымовіч, Сакрат Яновіч, Міра Лукша, Зміцер Шатыловіч, Васіль Пятручук, Уладзімір Гайдук, Мікалай Гайдук, Міхась Шаховіч і іншыя. Паколькі над намі не было ідэалагічнага прэса і ніхто не абавязваў тварыць у духу сацыялістычнага рэалізму, то кожны пісаў як хацеў. Старэйшыя выкарыстоўвалі творчыя традыцыі беларускай класічнай літаратуры, а маладзейшыя пераймалі ўзоры сучаснай польскай паэзіі — вельмі закрытай, некамунікатыўнай, суб'ектыўнай. Я ў гэтай паэтычнай амплітудзе займаю цэнтрысцкую пазіцыю. Я разумею, што мне нельга пісаць так, як пісаў Колас або Купала ў перыяд «Нашай нівы». Эвалюцыя верша — штосьці неабходнае. Развіваецца чалавецтва і яго культура, то павінна развівацца і літаратура. Карацей, паэзія — гэта свабода духу, і тут ні ў якім разе нельга накідваць чалавеку тое, што і як ён павінен пісаць.

**— І ўсё ж пагадзіцеся, што творчая эвалюцыя паэта залежыць у нейкай меры ад яго грамадзянскай пазіцыі. А як было ў Вас?**

— Як паэт і чалавек я многа атрымаў ад польскага сацыялізму, які не быў такім жорсткім як ваш. Беларуская вёска да вайны і ў ваеннае ліхалецце жыла ў страшэннай галечы і нядолі. Я памятаю бруд, клапоў, блох, каросту паміж пальцаў і тое, што хадзіў босы ад сакавіка да лістапада, бо адны боты былі на ўсю сям'ю. Я атрымаў адукацыю без дапамогі бацькоў, стаў прафесарам, то я не магу зараз кінуць камень у польскі сацыялізм, на баку якога я вельмі шчыра стаяў.

Акрамя таго, я захапляўся Беларускай сялянска-работніцкай грамадой, нават КПЗБ, ад якіх ішлі карані беларускага рэвалюцыйнага руху. Мне імпанаваў Фідэль Кастра як сімвал годнага супрацьстаўлення малога народа вялікаму. Усё гэта не магло адбіцца на ідэйным змесце майго першага зборніка «Белавежскія матывы». Сёння мая пазіцыя такая: калі вялікі змагаецца з малым, то я станаўлюся на бок слабейшага, — ці гэта будзе Амерыка ў В'етнаме або Грэнадзе, ці Саветы ў Венгрыі, Чэхаславакіі, Афганістане, а тым больш у Прыбалтыцы, Прыднястроўі і Чачні.

**— Вы апявалі «сацыялістычную яву»?**

— Апяваў. Але і ў першым зборніку маіх вершаў, адзіным, дзе ёсць такія творы, ёсць і рашучая дамінацыя матываў патрыятычных і прыродаапісальных. І ніводнага верша пра Леніна і Сталіна. Аб наступных зборніках — «Жнівень слоў», «Блізкасць далёкага», «Мой бераг», «Лірычны пульс» — магу сказаць: у іх мінімум палітычнага і максімум нацыянальнага, патрыятычнага.

**— Лічыце, што вядучай у творчасці павінна быць нацыянальная ідэя?**

— Я бачу ў ёй зараз адзіны паратунак для нацыі. У мінулым годзе на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі я выказаў такую думку: савецкая беларуская літаратура верна служыла кампартыі, была апалагетам гэтай партыі, але было б вялікай памылкай з гэтай пазіцыі пераскочыць на пазіцыю апалагета капіталізму. Беларусы не павінны ўпусціць гістарычны шанц адрадзіцца ў суверэннай дзяржаве, на што скіроўвае менавіта нацыянальная ідэя. Аб гэтым трэба дбаць у першую чаргу. Як доўга аднак можна будзе бараніць адраджэнне мовы, культуры і самасвядомасці народа, сказаць цяжка, паколькі з'явіліся грозныя сімптомы беларусафобіі ў вышэйшых эшалонах улады Рэспублікі Беларусь.

**— У нас нават вынайдзены і адпаведныя тэрміны для азначэння «ўнутраных ворагаў», якія змагаюцца за адраджэнне народа, — гэта «нацыянал-радыкалы» і «нацыянал-фашысты».**

— Такія азначэнні пахнуць яжоўшчынай, і гэта страшна. Абавязак кожнага сумленнага мастака ратаваць сёння нацыянальны дух і нацыянальную культуру. Асабіста я гатоў іх бараніць да канца свайго жыцця. На шчасце, такіх, як я, у сённяшняй Беларусі бачу многа.

Я не вельмі веру ў месійнасць паэзіі, але лічу, што сёння яна павінна крычаць. І адчайна. Крычаць нават тады, калі ёсць упэўненасць, што з тысячы слоў, якія выкрычыш, толькі адно задзейнічае. Тыя, што маўчаць, нічога не абароняць і нічога не дакажуць.

**— Як бы Вы вызначылі сваё мастацкае крэда?**

— Як ідэю ратавання нацыі ў нас у Польшчы і ў вас на Беларусі. Ведаеце, я жыву ў Варшаве, але не напісаў пра гэты горад ніводнага

*(Заканчэнне на с. 7.)*

ВУЧЫМСЯ

ВЕДА

# Што Бог даў...

## Частка V. Жалезная Беларусь

*(Працяг.)*

***«Бог жалеза стварыў не для таго, каб з яго рабіць мячы і коп'і, а для таго, каб каваць косы, сякеры і лемяшы»***, — так напісаў Лаўрын Крышкоўскі ў выданай у Нясвіжы «Гутарцы святога Юстына» (1564 г.).

**3. Жалеза ў ранняй нашай гісторыі.**

Навукоўцы сцвярджаюць, што на нашых абшарах калісь быў жалезны век. Так называюць эпоху ў гісторыі чалавецтва, калі з жалеза пачалі вырабляць зброю, вайсковы рыштунак, гаспадарчыя прылады. Жалезныя рэчы з'явіліся ў Еўропе ў XIII—XII стагоддзях да Хрыстовага нараджэння, перш на сярэднім Дунаі і на Балканах.

**Пытанні**: а) Ці не маглі ў той час нашыя прашчуры жыць там? (Згадаем тыя ж нашыя песні пра Дунай.) б) З якога часу паходзіць назва «Жалезныя вароты» — вузкага карыта ракі Дунаю? в) Калі магла з'явіцца вёска, якую называюць Жалезніца (Баранавіцкі раён)?

Аднак пачатак жалезнага веку прынята лічыць толькі з VIII—VII стагоддзяў да Хрыстовага нараджэння. Менавіта з таго часу паходзяць жалезныя вырабы, знойдзеныя на паўднёвых беларускіх гарадзішчах, што належаць да розных археалагічных культур. Шмат якія з іх, як мяркуюць даследчыкі, падобныя да вырабаў жалезнай зброі і рыштунку славутых сваёй ваяўнічасцю кельцкіх плямёнаў.

**Пытанні**: а) З якім «жалезам» сама перш маглі сутыкнуцца людзі? З ліманітам ці з горнарудным? Адказаць на пытанне дапаможа развага пра першыя шахты на Беларусі (яны ж у ліку першых і ў Еўропе), у якіх 2—4 тысячагоддзі таму здабывалі гегу (крэмень). Не забудзьцеся таксама і пра згаданы ў папярэднім нумары выпадак у Налібоках. б) Хто першы (выплавіў, сплавіў, стапіў, вытапіў — выберыце з іх адпаведнае ці прыдумайце сваё слова) жалеза з руды? Варыянты: пастухі (на забалочаных паплавах або ў гарах); лаўцы, якія вымушаны былі грэцца каля вогнішча; Пярун, які «ляснуў» у радовішча ліманіту.

Што такое ліманіт і як ён утвараецца? Пра гэта можна даведацца з кнігі прафесара П.А.Туткоўскага «Геологические исследования на территории бывшей Минской губернии» (1925 г.), якая была надрукавана ў Віцебску. «Залежи болотной руды, — пісаў невядомы нам цяпер прафесар, — сохранились, конечно, в очень больших размерах и постоянно пополняются осаждением лимонита из циркулирующих здесь грунтовых вод, в которых постоянно распространяются продукты выветривания валунных отложений, в которых содержится немало железосодержащих минералов». (Перакладзіце на беларускую мову.)

І праз шэсць гадоў краязнаўцы С.Баркоўскі і В.Скардзіс пісалі ў часопісе «Савецкая краіна», што ў 1930 і 1931 гадах экспедыцыі геолагаў з Акадэміі навук Беларусі выявілі каля Мазыра, Юравіч, Хойнікаў, Брагіна, Васілевіч якасную жалезную руду, «якая мае ў сабе ад 30 да 50 працэнтаў тленніку жалеза, а ў некаторых мясцох гэты процант падымаецца да 52. Агульны ж запас жалезных руд ацэньваецца, прыблізна, больш як у 10 міл.тон». Дарэчы, яшчэ раней, у 1853 годзе, расійская экспедыцыя палкоўнікаў Капарова і Іванова знайшла на Меншчыне, Віленшчыне руды такой жа якасці.

**4. Ведайце.**

У 1957 годзе ленінградскія археолагі пачалі сістэматычныя раскопкі першай сталіцы нашай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага. Навагарадак прывабіў навукоўцаў тым, "што быў акружаны паселішчамі і курганнымі могільнікамі з тыпова славянскім інвентаром». Перш раскапалі былы пасад — частку даўняга Навагарадка, якая знаходзілася па-за сценамі магутнага, умацаванага замка, але ў XII стагоддзі была абнесена трохметровай вышыні валам. Вядомая археолаг Фрыда Давыдаўна Гурэвіч піша ў кнізе «Древний Новогрудок» (Ленінград, 1981), што вялікім было здзіўленне, калі пры даследаванні пласту XII—XIII стагоддзяў адкрыліся рэшткі зусім незвычайных пабудоў. У іх уражвала ўсё: іх вялікія памеры (плошчай да 100 квадратных метраў); наяўнасць цэглы і ваконнага шкла; насценны роспіс у адным з будынкаў; розны рыштунак, сярод якога было шмат рэчаў раскошы і унікальных вырабаў.

Апроч ваконнага шкла (а прыкладам, у Маскоўскай дзяржаве, як паведамляе І.Е.Забелін, да Пятра I нават у царскіх палацах у вокны ўстаўлялі слюду), археолагі знайшлі шмат вырабаў з жалеза, асабліва многа было жалезных наканечнікаў стрэл — у кожным будынку. Паводле меркавання навукоўцаў Навагарадак быў самым багатым на жалеза горадам.

**Пытанне**: Адкуль маглі атрымоўваць жалеза даўнія жыхары Навагарадка? Варыянты адказу: а) ад гандляроў, што плылі «з вараг у грэкі» ці з Грэцыі на Гоцкі бераг? б) з Карпатаў, з-па-над Дунаю, г.зн. з верагоднай прарадзімы? в) з недалёкага адсюль кутка сваёй (г.зн. напачатку Навагарадскага княства, а пасля Вялікага Княства Літоўскага) дзяржавы, які называецца цяпер «краем Налібоцкай пушчы»?

У часопісе «Спадчына» (№ 2, 1991) Алег Макушнікаў паведаміў пра раскопкі на вакольным горадзе летапіснага Гомеля. Там была знойдзена зброевая майстэрня пачатку XIII ст. і часткі унікальнай зброі і вайсковага рыштунку.

Майстэрня была разбурана, верагодна, у 1239 годзе (тады мангольскім войскам быў захоплены і спалены Чарнігаў). Гомель жа вытрымаў асаду: пэўна ж добрую зброю кавалі гомельскія майстры. Прынамсі так можна меркаваць з рэштак перакрыжаванняў і навершаў мячоў ды шабляў з «чорнага металу», наканечнікаў ножнаў, кальчужных палотнаў, зробленых з сотняў жалезных кольцаў. Але самымі цікавымі знаходкамі сталі пласціны да баявых панцыраў — іх больш за 1000 адзінак. Гэты унікальны камплект не мае сабе роўных на тэрыторыі Усходняй Еўропы.

*(Заканчэнне будзе.)*

Мікола АБАБУРКА

ХАЧУ ВЕДАЦЬ

# Пра «лішнія словы» і яшчэ пра сёе-тое

Прачытаў рэпліку М.Бусла «Лішнія словы» і не мог супакоіцца, пакуль не атрымаліся вось гэтыя нататкі... Адразу скажу коратка: у мове як сродку зносінаў няма нічога лішняга, ёсць шмат чаго лішняга ў маўленні як працэсе гэтых зносінаў ці ў няўдалым выкарыстанні моўных сродкаў індывідуальна, г.зн. у індывідуальным маўленні. І ў прыведзеных прыкладах слова (дакладней: словаформа) «падрыхтоўваць» прыдатнае дзеля словаўжывання, а «адшукоўваць» — не, бо апошняе прыдуманае штучна, напэўна, чалавекам, надзвычай глухім да мовы народа. І ўвогуле нават і па сённяшні дзень усе магчымасці дзеяслоўных катэгорыяў і граматычных формаў дасканала не вывучаныя, асабліва ў дачыненні да сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Напрыклад, не толькі ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе, але і ў вышэйшых навучальных установах (найперш на філалагічных факультэтах і лінгвістычных аддзяленнях) нашай рэспублікі не вывучаецца такая дзеяслоўная катэгорыя, як **спосаб дзеяслоўнага дзеяння**. У гэтай катэгорыі асобныя граматычныя значэнні — значэнні пачынальнасці, абмежавальнасці, выніковасці, імгненнасці (аднакратнасці), шматкратнасці, перарывістасці, суправаджальнасці і размеркавальнасці. Прытым адзначанае адбываецца з дзеясловамі пераважна аднаго трывання. Што да дзеяслова «рыхтаваць», то гэта парнатрывальны дзеяслоў, і яму ўласцівае нават ступеннае ўтварэнне трыванняў: **рыхтаваць** (незакончанае) — **падрыхтаваць** (закончанае), **падрыхтаваць** (зак.) — **падрыхтоўваць** (незак.), **падрыхтоўваць** (незак.) — **нападрыхтоўваць** (зак.). Зразумела, што прыстаўкі ды суфіксы прыдаюць таму ці іншаму дзеяслову не толькі пэўнае адценне ягонага агульнага значэння працэсу, але і поўную змену лексічнага значэння, або таго зместу, сэнсу, які называецца самім дзеясловам. Параўнаем: **рыхтаваць — нарыхтаваць — нарыхтоўка — нарыхтоўчы — нарыхтоўшчык — нарыхтоўшчыца** і **рыхтаваць — падрыхтаваць — падрыхтоўка — падрыхтоўчы**. Калі першае словаўтваральнае гняздо мае дачыненне да сена, саломы, садавіны, гародніны і г.д., то апошняе (другое) — да навучэнцаў, студэнтаў, інстытутаў, факультэтаў і г.д. Варта толькі што-небудзь падмяніць ці свядома замяніць у прыведзеных (паказаных) шэрагах словаформаў ды словаў, як усё адразу можа стаць і ляпсусам, і нават абсурдам: паспрабуйце сказаць **нарыхтоўчык студэнтаў, навучэнцаў і далей** у такім парадку або стварыце паводле мадэлі слова **нарыхтоўшчык** слова **падрыхтоўшчык** — атрымаецца калі не бязглуздзіца, то ва ўсякім разе недарэчнасць. Таму і перад укладальнікамі тлумачальных ды так званых перакладных двухмоўных ці шматмоўных слоўнікаў узнікае шмат нялёгкіх задачаў у адлюстраванні разнастайных дзеяслоўных значэнняў, асабліва трывальных, галоўным чынам пераходных ад лексікі да граматыкі, па-навуковаму кажучы, лексіка-граматычных. Вось і атрымліваюцца слоўнікавыя артыкулы накшталт наступных:

ПАДРЫХТОЎВАЦЦА, -аюся, -аешся, -аецца; *незак.* 1. *Незак. да* падрыхтавацца. 2. *Зак. да* падрыхтоўвацца.

ПАДРЫХТОЎВАЦЬ, -аю, -аеш, -ае. *Незак. да* падрыхтаваць. (Гл.: ТСБМ. Т. 3. Л-П. Мн., 1979. С. 561).

Што да дзеясловаў **перападрыхтавацца, перападрыхтаваць, перападрыхтоўвацца, перападрыхтоўваць** і назоўніка **перападрыхтоўка**, зафіксаваных у тым жа ТСБМ, то яны ўжо сваім намінатыўным значэннем адносяцца да такога шэрага, як **удасканаліцца, удасканаліць, удасканальвацца, удасканальваць** і **удасканаленне** ды **удасканальванне**.

Такім чынам, усе разнавіднасці трывальных формаў у дзеясловаў жывыя і патрэбныя, неабходна толькі ўмела імі карыстацца. А з недарэчнымі і непатрэбнымі, прытым іншамоўнымі, зразумела, неабходна змагацца. Таксама і заблытвацца ў дзеяслоўных формах нявартa, бо некаторыя з дзеясловаў могуць утвараць амаль да 400 разнастайных формаў.

На мой погляд, адкідаць і выкідаць з нашага маўлення і з беларускай мовы ўвогуле найперш патрэбна такія формы, як *хацяць, гудзяць, балдзяць, балдзеюць, барзеюць, хіпуюць, знамянуюць, халявяць, падзаляцець, азнамяноваць, у азнаменаванне, нажрацца на халяву, кімарнуць, пад'ялдыкваць, выпендрывацца* і шмат інш. (у 1958 г. выдавецтва АН БССР пусціла ў свет нават цэлую кнігу М.І.Крукоўскага «Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову» аб'ёмам у 175 стар.). Вядома, асноўнай сферай праілюстраванага словаўжывання з'яўляецца пераважна гутарковая, але, на вялікі жаль, прыведзеныя словы ўжываюць у сваім штодзённым лексіконе не толькі слабаадукаваныя насельнікі Рэспублікі Беларусь. І высокаадукаваныя індывіды блытаюць правільнае з няправільным, дапускаюць алагізмы. І нават у такіх сродках масавай камунікацыі, як радыё і тэлебачанне!!! Часам бывае, што не толькі вушы вянуць, калі пачуеш беларускі тэкст з пецярбургска-маскоўскім вымаўленнем, але і за жывот схопішся, каб не лопнуць са смеху ад выказвання накшталт гэтакага: «Сорак гадоў назад нарадзілася дачка...» (20 лістапада 1994 г., Бел.рэсп. радыё, 10 гадзін 25 хвілін, у далейшым час будзе паказвацца толькі лічбамі); «Толькі што нарадзіўшыхся дзяцей» (22 мая 1994 г., Бел.рэсп.радыё, 10-30); «Грошы гуляюць казырную карту» (16 красавіка 1994 г., тамсама, 9-19) і шмат інш. **На Беларускім радыё і тэлебачанні** няправільна скланяюць назоўнікі на г, к, х, няправільна ўжываюць лічэбнікі з назоўнікамі і іншымі часцінамі мовы, блытаюць канчаткі **-а** і **-у** ў назоўніках мужчынскага роду адзіночнага ліку і г.д. Падзівіцеся самі з наступнага вымаўлення і словаўжывання: «больш за сямідзесяці», «патрыятызма», «сацыялізма» (30 мая 1994 г., радыё, 10-10), «цэлых чатыры дні», «на практыкі» (27 чэрв. 1994 г., радыё, 6-05, 7-11), «у дзвюх тваіх лістах» (30 верасня 1994 г., тэлебач., 8-35), «дзвюх забойстваў» (10 снежня 1994 г., радыё, 9-23).

БЕЛАРУСКАЯ ЛАЦІНКА

***Язэп СТАПАНОВІЧ,***
***кандыдат біялагічных навук,***
***старшыня Акадэмічнай рады ТБМ***

# Не панацэя, але важны сродак уратавання нашай мовы і нацыі

*(Заканчэнне.)*

Сёння патрэба ў шырокім выкарыстанні нацыянальнай лацінкі відавочная. Як найраспаўсюджаная ў свеце, лацінская графіка ў нашым пісьменстве спрошчвае выйсце Беларусі ў еўрапейскую інфармацыйную (навуковую, эканамічную, культурную, палітычную) прастору. Наша інфармацыя лацінкай можа без перакладу ці транслітарацыі (як правіла, скажонай) улучацца ў сусветныя банкі дадзеных. Наяўнасць лацінкі паспрыяе жывым людскім кантактам з цывілізаваным светам, дазволіць выкарыстоўваць сучасную кампутарную тэхніку без дадатковай клавіятуры. Беларускую лацінку ўжо выкарыстоўваюць некаторыя навукоўцы, навуковыя і грамадскія таварыствы, як, напрыклад, «Кацяня», якія ўваходзяць у міжнародныя аб'яднанні і якім патрабуецца уніфікаваная і дакладная перадача нацыянальных назоваў (іменаў).

У надзвычай актуальнай форме паўстала зараз патрэба ў лацінцы ў сувязі з выдачай нацыянальных пашпартоў. Сапраўды, як будуць запісаны нашы імёны й прозвішчы — першы атрыбут асобы? Сучасная практыка двайнога калькавання (запіс на іншую мову праз расійскую) прыводзіць часам да моцнага скажэння іх. Бліжэйшы прыклад. Пабеларуску ў савецкім пашпарце мяне запісалі з расійскай мовы: Степанович Иосиф — Сцепановіч Іосіф, па-англійску пішуць: Stepanovich Iosif. Тыповыя калькі. Маё ж прозвішча на радзіме (Вілейскі раён) гучыць: Стапановіч, а імя як і дзеда — Язэп. Лічу, так павінна быць запісана ў новым пашпарце і, каб не скажаць калькаваннем, беларускай лацінкай: Stapanovic Jazep. І зразумела ўсім, не толькі еўрапейцам. Па дыякрытычных бачна, што славянін (гэтак пішуць чэхі, славакі, харваты, славенцы, лужычане), па змесце — што беларус. У такім выпадку я не прэтэндую на вылучэнне асобнай графы «нацыянальнасць». Яе, дарэчы, і няма ў пашпарце. Калі маіх суграмадзянаў, скажам, Сурэна Аракеляна, Іонаса Рашамавічуса ці Давіда Хасіна, гэта пытанне не турбуе (іх імёны й прозвішчы істотна не трансфармуюцца), то большыні беларусаў пагражае пашпартная асіміляцыя, менавіта па лініі анамастыкі.

Нашы вядомыя навукоўцы прафесар Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун, іншыя даследнікі, а таксама камісія па культуры БНФ і Акадэмічная рада ТБМ імя Ф.Скарыны загадзя падавалі прапановы лацінаграфічнай падачы імёнаў і прозвішчаў і стварэнні нацыянальна адметнага і максімальна зручнага пашпарта. Справа за адказнымі дзяржаўнымі асобамі, хто найбліжэй да беларускай клямкі ў еўрапейскі дом.

Закончу вершаванымі словамі Алега Бембеля:

— Панове, не! Гэта ня шал,
Ня водбліск летуценняў кволых...
..........................................
Лаціна... моваю Імшы
Ты станеш зноў на Беларусі!

Сапраўды. Будзе жыць тутэйшая лацінка. Дзеля нашай будучыні.

***Філалагічныя загадкі***

# Быліца пра хута

Знаёмы сэнс даўно забытых слоў...

Гэты радок узбягае на памяць, калі пачуеш нештодзённае, рэдкае, архаічнае слова. Часам бывае інакш: слова і незабытае, ды сэнс яго праступае цьмяна, ён амаль згублены ці забыты. Уражанне ад яго такое, як ад узору з бабулінага захавання на дне куфра ручніка: незразумела, што азначае гэты колер і малюнак і дзеля чаго тут ён. Сярод шматлікіх беларускіх слоў, засыпаных попелам часу, незвычайным і таямнічым здаецца слова «хут» (не трэба блытаць з «хлуд»). Што яно азначае?

**Лія САЛАВЕЙ.**




**Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Паэзія Гіёма Апалінэра (1880—1918), у сапраўднасці Вільгельма Апалінарыя Кастравіцкага, сына беларускай шляхцянкі, зіхаціць сапраўднымі знаходкамі, «вершамі-размовамі», часам вычварнымі, часам проста гарэзлівымі...

*Гіём АПАЛІНЭР*

## Мост Мірабо

*Пад мостам Мірабо струменіць Сена,*
*Нібы каханне наша.*
*Запомніць трэба, што бядзе на змену*
*Прыходзіць радасць вокамгненна.*

*Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,*
*Застаўся я, прамчаўся дзень.*

*Рука ў руцэ, мы твар у твар стаялі,*
*Глядзелі вочы ў вочы.*
*Пад мостам нашых рук рачныя хвалі*
*Ад позіркаў бясконцых стомлена змаўкалі.*

*Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,*
*Застаўся я, прамчаўся дзень.*

*Каханне, як рака, плыве далёка,*
*Мінае і сплывае.*
*О, як жыцця ідуць марудна крокі!*
*Адна надзея ўзнялася высока.*

*Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,*
*Застаўся я, прамчаўся дзень.*

*Знікаюць дні і тыдні ўсе таемна.*
*Ні час і ні каханне не вернуцца назад...*
*Пад мостам Мірабо адна нязменна*
*Струменіць Сена.*

*Гадзіннік выбіў: ноч ідзе,*
*Застаўся я, прамчаўся дзень.*

## Локан, знойдзены нанова

*Ён у памяці раптам знайшоў*
*Цёмна-русы, ласкавы локан.*
*— Долю дзіўную бачыш ізноў*
*У дарозе сваёй далёкай?*

*— І бульвар дэ Шапэль, і Атэй,*
*І Манмартр незабыты, вядома, —*
*Шэпча локан, — мне сняцца часцей*
*Дні сустрэч і парог твайго дома.*

*Быццам восені сонечнай цень,*
*Знікне локан маіх успамінаў...*
*Развітання апошняга дзень*
*Зліўся з доляю дзіўнай, адзінай.*

**Пераклад з французскай Эдзі АГНЯЦВЕТ.**

***Беларускае замежжа***

# Аляксандр БАРШЧЭЎСКІ: «Рускія і палякі пераканалі мяне ў тым, што я — беларус»

*( Працяг. Пачатак на с.4.)*

верша, хоць ён мне і блізкі. Не магу. Усё гэты магніт беларускі дзейнічае — Беласточчына. Апошні мой верш аб ёй таксама:

Мне сніцца малінавы звон,
Валошкавасць зорак высокіх.
Мой край — гэта ява і сон, —
Ён блізкі мне і далёкі...

**— Скажыце, калі ласка, у якім рэжыме пішаце? Ці шмат пішаце? І які лёс напісанага Вамі?**

— Ніколі не пішу ў рэжыме, па раскладу, а толькі калі да гэтага прымушае сэрца. Абдумваю толькі праграмныя вершы. Афарызмы прыходзяць у галаву нечакана і ў любым месцы. Добра пішацца на прыродзе. Пішу шмат. У доме адпачынку на вашай Ісачы — у краі, падобным на мой, — напісаў аднойчы больш за сто вершаў. І ўсе пра лес. Мае «Ісцкія эцюды» друкаваліся, здаецца, у «ЛіМе». У маіх твораў лёс незайздросны. Пераважная іх большасць не надрукавана.

**— Як працуе Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку?**

— Яно займаецца паратункам культуры і песні народнай. І гэта ў сітуацыі, калі сёння ў Польшчы вельмі дрэнна ставяцца да ўсялякіх ідэолагаў і партыйцаў. Людзі перасталі хадзіць на сустрэчы з палітыкамі, на спатканні з журналістамі, з болем у сэрцы гавару, што не ідуць яны і на спатканне з паэтамі. Але ідуць на спатканне з песняй. На фестывалях беларускай песні ў Беластоку канцэртныя залы перапоўнены. Апрача таго, вялікую імпрэзу арганізоўваем штогод на Купалле ў Белавежскай пушчы, на якую збіраецца 6—7 тысяч чалавек. Ужо па традыцыі на гэтыя святы прыязджаюць з Беларусі міністры: замежных спраў, адукацыі, культуры і друку.

Ужо шэсць гадоў таварыства будуе ў Гайнаўцы пры дапамозе беларускага ўрада і суайчыннікаў замежжа музей. На сучасны момант вялікую дапамогу атрымліваем ад Міністэрства культуры РБ.

**— Якую?**

— Міністр сп.Бутэвіч паспрыяў сябрам Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Польшчы, каб яны маглі выдаваць свае кнігі ў беларускіх выдавецтвах, а пазбаўленае матэрыяльных сродкаў таварыства — «Беларускі каляндар». У перспектыве пажадана было б наладзіць па лініі Міністэрства культуры рэгулярныя гастрольныя паездкі творчых калектываў: нашых да вас, а вашых да нас. Хачу дабавіць, што пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусь пачала прымаць без экзаменаў у розныя ВНУ да 60 чалавек у год выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляскага, забяспечваючы іх інтэрнатамі і стыпендыямі. Польскія беларусы зараз вучацца ў політэхнічнай акадэміі, медінстытуце, інстытуце культуры і педагагічных ВНУ. Апрача таго, Міністэрства адукацыі РБ у летні перыяд прымае на настаўніцкія курсы да 15 нашых педагогаў.

**— Беластоцкае таварыства мае свае філіі?**

— Маем у Варшаве, Гданьску, Гайнаўцы, Саколцы, Дуброве... У агульнай колькасці семнаццаць. Трагедыя заключаецца аднак у тым, што сёння, калі прыходзіць у жыццё капіталізм, які грунтуецца выключна на фінансавым разліку, нас пазбавілі амаль усіх нашых памяшканняў. За намі застаецца толькі памяшканне ў Беластоку, аднак існуе пагроза, што і яго мы страцім.

**— Урад вам дапамагае?**

— Урад фінансуе тры мерапрыемствы, а мы іх праводзім у год больш за семдзесят. Не маем грошай на ўтрыманне штатаў. Без памяшканняў, без тэлефонаў, без кантактаў з людзьмі як можна весці культурную працу?

**— Ці чытаеце нашы беларускамоўныя выданні?**

— На жаль, яны ў нас — рэдкая з'ява. Вучні беларускіх школ і ліцэяў, студэнты беларускіх філфакаў і выкладчыкі не маюць у Польшчы магчымасці карыстацца «Полымем», «Маладосцю», «ЛіМам» і іншай перыёдыкай, бо да гэтага часу стрымліваюць падпіску на вашы выданні якіясьці дужа заблытаныя бюракратычныя абмежавальнікі.

**— Спадар Баршчэўскі, вядома, што Вы, наш часты госць, цесна супрацоўнічаеце з творчымі саюзамі і навуковымі ўстановамі, аб чым сведчаць хаця б Вашы тытулы і званні. Раскажыце пра гэта шырэй.**

— Першы раз я прыехаў у Менск як асістэнт Варшаўскага універсітэта ў 1957 г. і з таго часу быў тут мо з дзвесце разоў. У часе вандровак станавіўся сведкам многіх падзей, аб чым мы з вамі ўжо гаварылі. Не скажу, што нічога добрага ў вас дзеля людзей не рабілася. Я заўважаў, што зямля добра апрацоўваецца, прыгажэюць вёскі і растуць гарады, а ў грамадстве прыбаўляецца адукаваных людзей. Разам з тым, я з болем у сэрцы бачыў, як прыходзіць у занянапад беларуская духоўнасць — мова, культура, гістарычная памяць. Зараз беларуская культура зводзіцца ў вас да нейкага музейнага скансену, аб чым мяркую хаця б па вашых артыстах: ледзь сыдуць са сцэны — адразу пераходзяць на рускую мову. Мы пратэстуем і просім не прысылаць нам больш такіх прадстаўнікоў беларускай культуры. А што да маіх непасрэдных кантактаў з беларускімі ўстановамі і дзеячамі, то яны вельмі шырокія, і я гэтым ганаруся. Цесна супрацоўнічаю з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны і яго дырэктарам Адамам Мальдзісам — блізкім мне па душы чалавекам. Аб характары нашага супрацоўніцтва можна меркаваць хаця б па тым, што Адам Іосіфавіч з'яўляецца прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, у якую Польскае беларусазнаўчае таварыства ўваходзіць у якасці нацыянальнага аддзела. Пад эгідай гэтай Міжнароднай асацыяцыі два гады назад быў скліканы І кангрэс беларусістаў свету, а зараз мы рыхтуемся да правядзення ІІ кангрэса, які адбудзецца сёлета ў Менску. Сардэчныя стасункі злучаюць мяне з дэканам філфака БДУ паэтам Алегам Лойкам; у цесным творчым кантакце працую з вядомымі беларускімі фальклapыстамі Анатолем Фядосікам і Васілём Ліцвінкам. Апошні ўзначальвае Беларускі саюз фалькларыстаў, сустаршынёй якога я з'яўляюся; даражу блізкімі адносінамі з галоўным рэдактарам Беларускай энцыклапедыі Барысам Сачанкам, маімі землякамі Уладзімірам Казберуком і Серафімам Андраюком.

**— А як ладзяцца Вашы кантакты з беларускай дыяспарай?**

— О, гэта вялікая тэма для гаворкі, бо і дыяспара вялікая... Першы раз паехаў у Англію ў 1979 г., а ўсяго ў Скарынінскім беларускім цэнтры ў Лондане працаваў шмат разоў. У Амерыку паехаў у 1981 г., калі беларускія эмігранты былі яшчэ для вас «ворагамі народа». Я ўжо тады ведаў Вітаўта і Зору Кіпеляў, Янку Запрудніка, Антона Адамовіча, Аляксандра Надсана, Антона Шукелайця, Кастуся Калошу, Сяргея Карніловіча, спадароў Русакоў і, вядома ж, біскупа Чэслава Сіповіча, які надрукаваў у часопісе «Божым шляхам» маю ананімную рэцэнзію на вядомае «Пісьмо рускаму другу», апублікаванае ў лонданскім цэнтры Скарыны. Ліст гэты, як пасля выявілася аўтарства Аляксея Каўко, быў першым у пасляваеннай краёвай рэчаіснасці вострым пратэстам супраць русіфікацыі і асіміляцыі беларусаў.

**— Якой была Ваша роля ў наладжванні ўзаемаразумення паміж беларусамі-эмігрантамі і савецкімі беларусамі?**

— Я ўсяляк імкнуўся дапамагчы ім паразумецца. Першым казаў, што не ўсе ў вас бегаюць з творамі класікаў марксізму-ленінізму пад пахай. Ёсць і гарачыя патрыёты, якія працуюць дзеля будучыні свабоднай Бацькаўшчыны. Другім гаварыў, што нашы суайчыннікі ў замежжы нармальныя людзі, многія з іх таксама працуюць на шчасце Беларусі. Спадзяюся, што беларусы свету ў будучыні дойдуць да паяднання.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

***Адгукнуліся на анкету «НС»***

# Адзіны скарб застаўся

Шаноўная рэдакцыя штотыднёвіка «Наша слова»! Адгукаюся на вашую анкету... Што я хацеў бы яшчэ прачытаць у «Нашым слове»? Нядрэнна, каб было болей пра тое, як каталіцкі касцёл і праваслаўная царква пераходзяць на беларускую мову. У якасці прыкладу — Чырвоны касцёл святых Сымона і Алены. Там праводзіцца імша па-беларуску ў 11 гадзін (нядзеля) і ў 18 гадзін (астатнія дні), маленне па радыё ў суботу і нядзелю ў перадачы «Голас душы», спевы розных хароў.

Часцей і падрабязней пішыце пра сапраўдных сыноў і дачок Беларусі, якія змагаліся за незалежнасць і шчасце нашага народа, але якіх замоўчвалі бальшавікі.

Старайцеся больш пісаць пра беларускую лацінку. Вось дзесяць лепшых рубрык, якія мне найбольш цікавыя: 1. Рупліўцы. 2. Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах. 3. Меркаванні. 4. Беларускі народны каляндар. 5. Пародыі. 6. Матэрыялы да слоўніка «Беларускія імёны». 7. Жывое слова. 8. Чыталі? 9. Поступ тыдня. 10. У газетах.

А наогул, астатнія рубрыкі таксама добрыя і мне цікавыя. Першы нумар «Нашага слова» я набыў 20 кастрычніка 1993 года. Да таго часу я не ведаў пра вашу газету. З 1994 года я ваш падпісчык.

Адукацыя сярэдняя. Зараз вучуся ў ПТВ-221 на кухара. Першы курс. Мне семнаццаць гадоў. Жыву ў Менску.

P.S. Беларусаў на працягу вякоў рабавалі, і толькі адзіны скарб не маглі канчаткова адабраць — слова, нашу мову. Дык зграмадзімся ўсе разам, каб абараніць і захаваць гэты скарб! Хай ваша праца будзе на карысць адраджэння нашае нацыі і няхай усё больш і больш свядомых грамадзян чытаюць газету «Наша слова» і ўсюды гавораць па-беларуску!

Ваш прыхільнік і чытач
**Ciareška Eduard.**

***У СУСЕДЗЯЎ***

# Пекла Чачні: размаўляць па-расійску прымушаюць кулаком, штыхом і прыкладам

Два месяцы чачэнскай бойні прымусілі здрыгануцца людзей ва ўсіх кутках свету. Цяпер тыя палітыкі, якія нядаўна абдымалі Ельцына, стараюцца публічна памыць рукі, каб не страціць давер да сябе з боку насельніцтва ўласных краін. А тым часам двухмільённая расійская армія чыніць у Чачні такое, што Нюрнбергскім міжнародным трыбуналам адназначна расцэньвалася як ваенныя злачынствы. Трэба аддаць даніну павагі расійскаму народу — больш за 70 працэнтаў насельніцтва катэгарычна супраць вайсковых дзеянняў у Чачні, дэмакратычныя сродкі масавай інфармацыі, нягледзячы на пагрозы з боку ўлады, даносяць праўду пра тое, як устанаўліваецца «канстытуцыйны парадак» у невялічкай рэспубліцы — «суб'екце федэрацыі», як стараюцца вайсковыя чыныператварыць расійскіх хлопцаў у крывавых катаў і марадзёраў, паяднаць, павязаць усіх мукамі і крывёю ахвяр. Прывядзём толькі некалькі вытрымак з магнітафонных запісаў расказаў тых, хто цудам вызваліўся з «братэрскіх абдымкаў» расійскіх карнікаў, што надрукаваныя ў адным з апошніх нумароў «Литературной газеты» (№ 7, 1995 г.).

**Сяло Несцераўскае. Расказвае 23-гадовы хлопец, танклявы, змардаваны, увесь у сіняках (яго схапілі проста на дарозе разам з меншым братам):**

— Спынілі... П'яныя, білі і прыкладамі, і рукамі, штых-нож прыстаўлялі да горла. Пытаюць: «Хто такія?» — «Мы інгушы з Несцераўскай». Дакументы... Усё роўна нас не адпусцілі. Звязалі рукі, завязалі вочы, пасадзілі ў БТРы, павезлі, пакуль ехалі — білі, то прыкладам, то кулаком, у мяне цалкам разбіта галава ззаду, прыкладам білі... Прывезлі... Нас 17 чалавек было... У верталёты... Прывезлі... Пачалі біць усіх падрад. Аднаму нogi перарэзалі штых-нажом. Яму 53 гады. Ён сам грамадзянін Расіі, у Расіі жыве, прыехаў 30-га... Білі... Гэта былі дэсантнікі, адны ў масках, другія без, чорныя шапкі ва ўсіх. Праз шарф мне бачна было, пакуль нос не пераламалі. Білі... Гаварылі: «За Саню, за Валодзю, за гэтага...» Каго штых-нажом перарэзалі. Гэты стары ў адной камеры са мной сядзеў. У яго ўжо крыві не заставалася... Потым збілі нас нармальна, групаю, там многа іх было... Думаю, лётчыкі былі з імі ж, у камуфляжы... На цэлы дзень давалі па тры глыткі вады ўвечары. Яны гаварылі: «Вы сваё пражылі». Многа хлопцаў было з Інгушэціі... Яны не дазвалялі гаварыць па-інгушску, па-свойму. Толькі па-руску...

**Станіца Асінаўская. Расказваюць разам некалькі жанчын і настаўнік гісторыі:**

— Прама на вуліцы хапалі ўсіх... з хат выцягвалі і некуды ўвозілі. Рабуюць усё, што ёсць у хаце, нават бульбу... Нічога не саромеюцца, гвалцяць маладзенькіх дзяўчынак... Нікому нельга жыць дома. Я з пяццю дзецьмі збегла адтуль... Мы баімся дома жыць... Здзекуюцца, гвалцяць, хапаюць. Бяруць у заложнікі, увозяць невядома куды... Штодня забіраюць па 10—15 чалавек. Бясследна знікаюць гэтыя людзі... Хапаюць падлеткаў, мужчын, распранаюць да споднягa, здзіраюць абутак... кідаюць папярок БТРаў і, спяваючы песні, катаюцца па станіцы... Калі паказвалі фільмы, як немцы ў часе вайны лавілі, бегалі за парасятамі, курамі, тое ж самае адбываецца... Усё, што могуць, выграбаюць з хат, потым закідваюць гранатамі гэтыя хаты... Як можна знішчаць дзяцей; жанчын, дзяўчат гвалціць, здзекавацца, а потым выкідаць мёртвых з БТРаў! Усё гэта сярод белага дня.

**Расказвае Пётр Косаў, палкоўнік, першы намеснік атамана Вялікага Войска Данскога:**

— Нагледзеўся, што твораць нашы... Вось тут я бачыў рэальны фашызм. А правёў два гады ў Германіі... Стужачкі носяць зялёныя — хто колькі чачэнцаў забіў... Паханізм... Спытайце ў салдат, як іх накачваюць. Якая ідэалогія іхняй агрэсіі. Як гэта ім талдычаць афіцэры: Крым, маўляў, страцілі. Мы павінны тут адыграцца, у Чачні, паказаць усім, усяму свету, што больш губляць нічога не будзем. Цяпер будзем толькі здабываць. Мы павінны ўсім паказаць тут, якія мы, рускія.

**Мы нічога не будзем каменціраваць. Паставім Богу свечку і як хто зможа памолімся за новых пакутнікаў, за загубленыя жыцці і загубленыя душы. Адно толькі просіцца пытанне: што ж гэта так зацята маўчыць Руская праваслаўная царква? Чаму сёння не ў Грозным патрыярх?**

Ул.АС.

